XVIII

7947 (111)



Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 10-11. 15 сьнежня 1929 году

# ВЕСТКІ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, К. Маркса, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 1001.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.

УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.



# Асноўныя рашэньні Лістападаўскага Пленуму ЦК і чарговыя задачы партарганізацыі.

Вынікі першага году пяцігодкі наглядна пацьвярджаюць правільнасьць генэральнай лініі нашай партыі. Яны паказваюць на тыя вялізарныя задачы, якія стаяць перад намі і на тыя цяжкасьці, „узкія" мейсцы, якія нам трэба перамагчы. Усім парторганізацыям неабходна праверыць у сябе, ці зрабілі яны ўсё для таго, каб забясьпечыць выкананьне намечаных тэмпаў росту прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў. *Асаблівую ўвагу ўсе партарганізацыі павінны зьвярнуць на пасьпяховае выкананьне якасных паказальнікаў работы прамысловасьці.* Пытаньні зьніжэньня сабекошту, падняцьце вытворчасьці працы, палепшаньне якасьці прадукцыі,—вось тыя вузлавыя рашэньні Лістападаўскага Пленуму ў галіне прамысловасьці, якія павінны быць пасьпяхова выкананы кожнай арганізацыяй, пры чым як мінімум павінны быць выкананы тыя канкрэтныя заданьні, якія пастаўлены прамфінплянам для кожнага прадпрыемства і Трэсту. Трэба ажыцьцявіць рашэньне Пленуму, якое абавязвае „ўсе мясцовыя, партыйныя і савецкія прафарганізацыі ўжо ў першым квартале разгарнуць такія тэмпы работы для ажыцьцяўленьня гэтай дырэктывы (аб якасных паказальніках), якія-б поўнасьцю забясьпечылі яе выкананьне". Перад партарганізацыяй у сувязі з гэтай дырэктывай стаіць наступная канкрэтная задача. *У час, які застаецца ад першага кварталу і максымум у другім квартале нагнаць усё тое, што ўпусьцілі за*



*першы квартал і забясьпечыць далейшае пасьпешнае выкананьне ўсіх якасных паказьнікаў.* Пленум асабліва падкрэсьліў, што пасьпешнае правядзеньне сац. спаборніцтва зьяўляецца „адным з важнейшых умоў і прадпасылак у выкананьні ўсяго пляну цалкам“. Партарганізацыі павінны прыняць усе меры да таго, каб забясьпечыць поўнае разгортваньне сац. спаборніцтва і ўцягненьне ў яго ўсіх рабочых. Трэба памятаць, *што Пленум падкрэсьлівае неадпаведнасьць паміж якасьцю кіраўніцтва і значэньнем сац. спаборніцтва, гэтым самым патрабуе ад усіх парт. арганізацый палепшыць кіраўніцтва ім.*

У галіне сельскае гаспадаркі Пленум канстатаваў „новы гістарычны этап у справе будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне“, які выражаецца „ў карэнным зруху ў справе сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і рашучым пераломе ў адносінах бядняцка-серадняцкіх мас да калгасаў“, падкрэсьліў, што гэта „зьяўляецца простым вынікам правільнай палітыкі рабочай клясы і партыі ў вёсцы, пасіленьне кіраўнічай ролі рабочае клясы ў яе саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, магутнага росту сацыялістычнай індустрыі і пасіленьня вытворчых форм змычкі“.

У галіне сельскае гаспадаркі партарганізацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на наступныя дырэктывы Пленуму, якія выцякаюць з вышэйпрыведзенай ацэнкі абставін. *„1929-30 г. павінен быць годам далейшага і значнага кроку наперад у справе абагульняння сельскае гаспадаркі“.* Для таго, каб гэтага дабіцца, трэба цяпер-жа прыняцца за далейшае разгортваньне новых калгасаў, трэба, не чакаючы канца году, выканаць ужо да вясеньняй пасеўнай кампаніі гадавы плян арганізацыі новых калгасаў. Што-ж датычыцца палепшаньня работы саміх калгасаў, дык Пленум намеціў наступныя асноўныя задачы: а) неабходнасьць сыстэматычнага ўзмацненьня і ўсямернага росту аграмаджаных фондаў і ў сувязі з гэтым недзялімых капіталаў, калгасаў. Для выкананьня гэтай дырэктывы трэба арганізаваць сыстэматычную прапаганду гэтага асноўнага мерапрыемства і арганізаваць унутры калгасаў перадавыя элемэнты за стварэньне гэтых фондаў. Бядняцка-серадняцкае ядро ў калгасах павінна быць зьяднана на аснове барацьбы з кулацкімі элемэнтамі і падкулачнікамі як у саміх калгасаў, такі ў вёсках; б) неабходна пасіленьне тэхнічнай базы калгасаў, для чаго зараз-жа прыступіць да мабілізацыі сродкаў сялянскага насельніцтва на фінансаваньне будаўніцтва трактарных заводаў, заводаў па пабудове камбайнаў і складаных сел.-гасп. машын. „Трэба разгарнуць кампанію ў калгасах па ўтварэньню спэцыяльнага экспартнага фонду для закупкі машын“. Пленум ЦК папярэдзіў „супроць недаацэнкі цяжкасьцяй калгаснага будаўніцтва і асабліва супроць фармальна-бюрократычнага падыходу да яго і да ацэнкі яго вынікаў. Нашы арганізацыі павінны дабіцца хутчэйшага ажыцьцяўленьня дырэктывы *аб павароце сельсаветаў тварам да калгасу*, аб тым, каб прафсаюзы сапраўды заняліся канкрэтнаю дапамогаю калектывізацыі сельскае гаспадаркі, неабходна падтрымка растучага імкненьня прамысловых рабочых да актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Работа шэфскіх вобчаств павінна быць перабудована пад кутком пасіленьня іх удзелу ў калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Арганізацыі павінны таксама неадкладна паставіць работу па ўцягненьню батрацтва ў калгасы. Трэба праверыць і практычны ўдзел Камсамолу ў рабоце па калектывізацыі і прыняць канкрэтныя меры да ўзмацненьня яго.

*Нарэшце, Пленум падкрэсьліў неабходнасьць узмацненьня парт. кіраўніцтва калгасным рухам.*

Мы зьвяртаем асаблівую ўвагу партарганізацыі на дырэктыву Пленуму: „партарганізацыі павінны сваю-

часова мабілізаваць сілы для правядзеньня надыходзячай пасеўнай кампаніі, паставіўшы галоўную задачу далейшага разьвіцьця масавага вытворчага каапэраваньня, калектывізацыі сельскае гаспадаркі і разгортваньня саўгасаў". Партарганізацыі павінны забясьпечыць найбольшую арганізаванасьць і актыўнасьць рабочай грамадзкасьці ў падрыхтоўчай рабоце, трэба дабіцца ў надыходзячую пасяўную кампанію зьядначаньня асноўных мас сялянства для ажыцьцяўленьня задач гаспадарчага пад'ёму і пераходу да калектыўных форм землякарыстаньня.

Мабілізацыя сродкаў для патрэб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі павінна праводзіцца ў форме барацьбы за распаўсюджваньне пазык індустрыялізацыі, пасіленьня работы ашчадных кас.

Перад намі стаіць задача ўсямерна вясьці барацьбу з распрадажаю мёртвага і жывога інвэнтару часткаю сялян пры пераходзе іх у калгасы.

У кожным калгасе неабходна настойлівая і сыстэматычная барацьба за павышэньне вытворчасьці працы, за падняцьце ўраджайнасьці, за павялічэньне таварнай прадукцыі.

Нам трэба забясьпечыць кантрактацыю дзяржаве ўсяе таварнае прадукцыі калгасаў. Арганізацыі павінны прасачыць, каб крэдытаваньне і снабжэньне калгасаў усіх зьвеньняў сельска-гаспадарчай каапэрацыі, іх агранамічнае абслугоўваньне, было-б абумоўлена здачаю дзяржаве ўсяе таварнай прадукцыі.

Вось асноўныя рашэньні Лістападаўскага Пленуму, якія нам трэба ажыцьцявіць у бліжэйшы год.

Для таго, каб ажыцьцявіць гэтыя задачы, Пленум асабліва падкрэсьліў неабходнасьць усяляк перагараджаць і прасякаць спробы кулакоў пранікнуць у калгасы. Трэба выгнаць тых кулакоў, якія змаглі пралезьці ў калгасы. Трэба выкрыць лжэ-калгасы і іх ліквідаваць.

Наступнае важнейшае пытаньне, разгледжанае на Пленуме—пытаньне аб кадрах. Асноўная задача нізавых партарганізацый павінна быць: а) упарадачыць рух, зрабіўшы яго плянамерным, арганізаваць падрыхтоўку ў індывідуальным і групавым парадку вылучэнцаў і разгарнуць сетку вячэрніх курсаў для вылучэнцаў; б) прыняць жорсткія меры для таго, каб ВНУ, Тэхнікумы, Прафтэхшколы і Фабзавучы перабудавалі свае праграмы, навуковыя пляны, згодна апошнім паказаньням. Арганізацыі павінны забясьпечыць ажыцьцяўленьне дырэктыў аб вытворчай практыцы; в) трэба найхутчэй прыступіць да разгортваньня курсаў для падрыхтоўкі рабочых, батракоў да паступленьня ў ВНУ і тэхнікумы. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на падбор таварышоў у лік 3.000, якія будуць пасланы ў гэтым годзе ў ВТНУ. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на падбор кандыдатаў для пасылкі ў лік 1.000 у сельска-гаспадарчыя ВТНУ. Трэба прасачыць, як КСМ выконвае дырэктыву аб падрыхтоўцы ў ВНУ і тэхнікумы.

Лістападаўскі Пленум вынес таксама спэцыяльнае рашэньне аб рабоце сярод спэцыялістых. Трэба ўзмацніць работу ІТС, для чаго ўзмацніць іх работнікамі і сродкамі. Часьцей правяраць выкананьне імі сваіх плянаў. Акрамя таго, партарганізацыі павінны побач з узмацненьнем барацьбы супроць варожых нам груп спэцыялістых, ствараць найбольш спрыяючыя абставіны для тых спэцыялістых, якія сумленна працуюць. Асноўнай задачай работы сярод спэцыялістых павінна быць—*усямернае сапраўднае ўцягненьне іх у актыўную работу па паляпшэньню вытворчасьці, разгортваньню сац. спаборніцтва і ўдзелу ва ўздыме ўзроўню тэхнічных ведаў рабочых.*

Лістападаўскі Пленум пацьвердзіў, што галоўнай небясьпекай застаецца правы ўхіл і прымірэнцтва да яго. З гэтага выцякае неабходнасьць — узмацненьне барацьбы з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго. Пытаньні барацьбы з канкрэт-

нымі праявамі правага ўхілу трэба падымаць на неабходна-прынцыповую вышыню. Усе арганізацыі павінны няшчадна выкрываць усялякія спробы паслабіць барацьбу з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго, у сувязі з заявамі *Бухарына, Томскага і Рыкава*. Трэба, каб цьвёрда было ўсвоена, што аднае заявы мала, трэба справы, трэба рашучая рэвізія сваіх тэорый. Яны павінны паказаць прыкладам барацьбы за генэральную лінію партыі. Побач з гэтым неабходна мацней разгарнуць выкрываньне „лева“-апартуністычных настрояў і контррэволюцыйнага троцкізму. Пленум таксама абавязаў непаслабна праводзіць чыстку сав. апарату і ўзмацніць барацьбу з апартунізмам у савецкіх, прафэсыянальных і партыйных арганізацыях.

Аб самакрытыцы Пленум даў наступную ўстаноўку: „Трэба прыцягваць рабочых да барацьбы з бюрократызмам на базе далейшага разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі. Адначасова павінна быць узмоцнена барацьба, як з бюрократычнымі спробамі абмежаваньня самакрытыкі, так з недапусьцімым перахлёстваньнем у галіне самакрытыкі“. Для таго, каб выканаць гэтыя рашэньні, усім партарганізацыям неабходна праверыць, як выконваюцца рашэньні партыі па ўсіх гэтых пытаньнях, як члены партыі, асобныя зьвеньні партарганізацыі ўсвоілі дырэктывы партыі па гэтаму пытаньню. Пры праядзеньні ўсяе работы па рэалізацыі дырэктыў Лістападаўскага Пленуму ўсе арганізацыі павінны выходзіць, што рашэньне Лістападаўскага Пленуму абавязвае нас прыняць усе неабходныя меры для таго, каб дабіцца пабудовы сацыялізму ў краіне пралетарскай дыктатуры ў гістарычна-мінімальны тэрмін. А тое, што гэтая задача рэальная, сьведчыць бурны рост сацыялістычных форм гаспадаркі ў горадзе і вёсцы і рашучы посьпех палітыкі наступленьня сацыялізму на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і разгром, як „лева“ апартуністычнай апазыцыі ў твары контррэвалюцыйнага троцкізму“, „левых“ загібаў, так і праваапартуністычнай апазіцыі на чале з *Бухарыным, Томскім і Рыкавым*.

Трэба памятаць, што рэзалюцыя рашэньняў Лістападаўскага Пленуму будзе ажыцьцяўляцца ў абставінах абвостранай клясавай барацьбы на дадзеным этапе сацыялістычнага будаўніцтва. Арганізацыі павінны пільна сачыць за клясавым ворагам, не замазваць клясавай барацьбы, а арганізоўваць сыстэматычнае, няшчаднае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, рашуча выкарчоўваючы карэньні капіталізму ў краіне.

**А.**

---

# Як Беларуская С.-Г. Акадэмія рыхтуе кадры для сельскай гаспадаркі БССР.

Значэньне кадраў у пэрыяд сац. рэканструкцыі народнай гаспадаркі надзвычайна вялікае. Асабліва вялікая роля кадраў, якія патрэбны для рэканструкцыі с.-гасп.

Пасьпешнае ажыцьцяўленьне задач партыі ў адносінах забясьпечаньня тэмпаў сац. перабудовы вёскі ўпіраецца ў недастатковае наліччa такіх кадраў, якія-б былі сапраўднымі організатарамі і праваднікамі сац. перабудовы вёскі.

Шпаркі тэмп, які перавышае ўсякія намёткі, быўшыя раней у адносінах калектывізацыі с.-гасп., патрабуюць ад нас такіх кадраў, якія-б маглі гэтыя задачы ажыцьцявіць.

Мы ўпяршыню і першыя ў сьвеце прыступаем да пабудовы нябачаных да гэтага часу магутных калектыўных гаспадарак і саўгасаў. Мы выкарчоўваем карэньні капіталізму, а разам з імі індывідуалі-

стычныя настроі, якія сотні гадоў уладарылі сярод сялянства. Мы наступаем. Мы будуем калгасы, мы перарабляем грамадзкія адносіны краіны. У гэтых умовах капіталістычныя элемэнты (кулакі) у вёсках усякімі мерамі імкнуцца перашкодзіць сац. будаўніцтву і, ня гледзячы на гэта, шпарка растуць усё новыя і новыя калгасы. Дастаткова паказаць, што калі ў БССР на першае кастрычніка 27 г. было *440 калгасаў на плошчы зямлі 58.300 га*, дык на 1 XII-29 г. у нас налічваецца *1.989 калгасаў*, на *плошчы зямлі 955.920 га.* Гэтыя сухія лічбы гавораць самі за сябе. Калі прыняць пад увагу, што ў бліжэйшы год намечана да суцэльной калектывізацыі 15 раёнаў і 1 акруга поўнасьцю па БССР, дык гэта даказвае яшчэ больш, якія аграмадныя зрухі мы намячаем у гэтых адносінах.

Усе гэтыя наметкі ня могуць быць ператвораны ў сапраўднасьць без дастатковай колькасьці падрыхтаваных спэцыялістаў, бяз кадраў сацыялістычных перабудаўнікоў.

Кадры спэцыялістаў, якія маюцца ў БССР, не здавальняюць нас на сёньняшні дзень ні колькасна, ні якасна. Спэцыялісты, якія працуюць цяпер, атрымалі падрыхтоўку большай часткай не адпавядаючую запатрабаваньням, якія маюцца ў нашай краіне.

Адзінае покуль месца, адкуль мы можам атрымаць неабходны нам лік кадраў (а як мы ўбачым з прыводзімых ніжэй лічбаў, гэта не здаволіць нават нашых мінімальных патрабаваньняў) спэцыялістаў па сельскай гаспадарцы,—зьяўляецца Беларуская С.-г. Акадэмія, але яна да гэтага часу яшчэ не адпавядае тым задачам, якія высунуты сацыялістычнай рэконструкцыяй с.-гасп. Без каранной рэарганізацыі, БСГА ня справіцца з тымі задачамі, якія на яе ўкладзены, па розным прычынам. Першая з іх зьяўляецца тая, што да гэтага часу акадэмія карыстаецца старымі даўно аджыўшымі мэтадамі выкладаньня. Другое— адсутнічаньне сувязі тэорыі з практыкай (па пытаньні непарыўнай практыкі яшчэ нічога ня зроблена). Трэцяе — адсутнічаньне чоткасьці і марксыцкай устаноўкі ў навучальных праграмах (дастаткова прывесьці такі прыклад: калі адзін з прафэсароў мэдфаку спрабаваў даць марксыцкую ўстаноўку ў сваёй праграме, дык ён заблытаўся ў „трех соснах", разьвесіў вытрымкі з Міхалеўскага на сасновых сукох). Чацьвертае —зусім недастатковае забясьпечаньне студэнтаў навучальнымі падсобнікамі. Пятае—незабясьпечанасьць навучальнымі памяшканьнямі (ака эмія забясьпечана каля 60% навучальным памяшканьнем, некаторыя лябораторыі з каштоўным абсталяваньнем знаходзяцца ў карыдорах) Шостае — незабясьпечанасьць акадэміі марксыцка-вытрыманымі навуковымі працаўнікамі і ня поўнае ўкамплектаваньне навуковымі працаўнікамі акадэміі (некаторыя прадметы чытаюцца „наезднікамі", якія на працягу аднаго тыдню заканчваюць сваё выкладаньне) і сёмае—дрэнныя матарыяльныя і бытавыя ўмовы студэнцтва (атсутнічаньне інтэрнату, сталовак у горадзе і т.п.).

Усе гэтыя моманты ставяць перад намі задачу каранной рэарганізацыі Акадэміі, у аснову якой павіны быць пакладзены пастановы пленумаў ЦК УсеКП(б) л пенскага 1928 г. і лістападаўскага 1929 г. аб сувязі вучобы з непарыўнай вытворчай практыкай і аб пераглядзе і палепшаньні ўсіх праграм, акрамя гэтага неабходна прыняць хуткія крокі да зьнішчэньня ўсіх вышэйпаказаных недахопаў, бяз зьнішчэньня якіх акадэмія ня зможа выйсьці з тупіку, у якім яна зараз знаходзіцца. Пры гэтых умовах, існуючых зараз у Академіі, мы зможам апынуцца ў такім-жа становішчы, у якім Акадэмія была да гэтага часу ў адносінах падрыхтоўкі кадраў. А да гэтага часу мы мелі наступныя недахопы:

Да гэтага часу Акадэмія выпускала: 1) спэцыялістаў-арганізатараў дробна капіталістычнай індывідуальнай сельскай гаспадаркі, якіх вельмі цяжка без перападрыхтоўкі

(хоць-бы кароткатэрміновай) скарыстаць на адказнай і цяжкай працы па перабудове вёскі; другая—сацыяльны склад скончыўшых (большасьць заможных сялян). Вельмі маленькі процант партыйцаў і рабочых; трэцяя — склад выкладчыкаў (прафэсура і інш.) па суб'ектыўных прычынах (значная частка—людзі з варожай нам ідэолёгіяй, са старымі даўно аджыўшымі мэтадамі выкладаньня, якія баяліся ўсякіх новаўвядзеньняў у гэтых адносінах), і па аб'ектыўных прычынах (адсутнічаньне дастатковае колькасьці марксыстаў, якія змаглі-б дастаткова ўплываць і праводзіць патрэбную нам лінію) яны ня змогуць справіцца з гэтымі задачамі без дастатковай дапамогі з боку грамадзкіх арганізацый праз пасылку ў Акадэмію марксыцкі-вытрыманых навуковых працаўнікоў; і 4)—колькасны склад студэнтаў (1.469 чал.) на ўсіх 4-х курсах таксама нездавальняюць тых мінімальных патрабаваньняў, якія неабходны для патрэб с.-гаспадаркі БССР.

Пытаньню аб рэорганізацыі ўсёй структуры С.-Г. Акадэміі яшчэ не аддавалася належнай увагі, толькі за апошні час былі зацьверджаны новыя дэканы і іх намесьнікі з больш бліжэйшых да марксызму людзей, але каранной рэарганізацыі яшчэ ня было, за выключэньнем таго, што стаў існаваць да існуючых 4-ы факультэт (аграфак, земфак, лесфак і мелфак) яшчэ адзін факультэт буйнага земляробства (калфак), але яго функцыянаваньне ня можаісьці бяз увязкі з выкананьнем рашэньняў ліпеньскага і лістападаўскага пленумаў ЦК УсеКП(б) аб бесьперапыннай практыцы і палепшаньні вучэбных праграм. Бяз гэтага прымяненьня вынікі яго будуць вельмі кепскія. І таму пытаньне аб увязцы выкладаньня ў Акадэміі цалкам з вытворчай практыкай палепшаньня праграм і рэорганізацыі мэтодаў выкладаньня (цыклевая сыстэма)—адно з галоўнейшых пытаньняў жыцьця Акадэміі.

А як было ў Акадэміі да гэтага часу? Практыку студэнты праходзілі ў карлікавых саўгасах—фэрмах, якія знаходзіліся ў распараджэньні Акадэміі, і не прыстасаваных да гэтай мэты. Гэтыя саўгасы на многа адстаюць ад тых саўгасаў, якія існуюць у нас у БССР. Два саўгасы з 3-х могуць служыць прыкладам таму, як ня трэба весьці савецкую гаспадарку, а адзін з горам папалам можа зьяўляцца месцам практыкі, але і ён не зьяўляецца гаспадаркаю, дзе-б студэнты змаглі вучыцца. як трэба весьці савецкую гаспадарку.

Навакол Акадэміі разьмешчана 4.434 хутары. А калгасаў у раёне маецца ўсяго 24, яны знаходзяцца на досыць вялікай адлегласьці ад акадэміі і практыкі праходзіць там немагчыма. Хутарское абкружэньне Акадэміі можа быць пастаўлена ёй у віну. Ужо шмат гадоў, як арганізавана вышэйшая савецкая навуковая ўстанова, якая павінна была займацца сацыялістычнай перабудовай вёскі, а хутары ўсё працягваюць існаваць і расквітаць у якасьці кантрасту таму, каго рыхтуе Акадэмія і колькі яна справілася ў галіне калектывізацыі. Няўжо ня было сіл і магчымасьцяй перарабіць хоць-бы частку хутароў у калектыўныя гаспадаркі? Трэба проста сказаць, што да апошняга часу Акадэмія не займалася пытаньнем калектывізацыі сялянской гаспадаркі акаляючых вёсак. Аб чым іншым гавораць хутары, якія абкружаюць Акадэмію!?

Трэба арганізаваць з двух карлікавых саўгасаў адну буйную гаспадарку, якая-б адпавядала назьве навучальна-практычнага. Дзе магчыма было-б студэнтам праходзіць бесьперапынную практыку. Трэба арганізаваць для гэткай-жа мэты вакол Акадэміі буйныя калгасы (а апошні час паказвае, што тады, калі Акадэмія ўзялася за справу каляктывізацыі, калектывізацыя ў раёне ссунулася з мёртвай кропкі), усё гэта дасьць магчымасьць аб'яднаць тэорыю і практыку і дасьць свае вынікі ў будучым.

Па дадзеным, якія маюцца ў нас для патрэб с.-гаспадаркі, патрабуецца ў бліжэйшыя 4 гады (па дадзеным НКЗему) 4029 чал. спэцыялістаў з вышэйшай асьветаю, у тым ліку спэцыялістаў, абучаных у Акадэміі—3410 ч. У Акадэміі пакуль што навучаецца на ўсіх 4-х курсах, якія павінны скончыць да гэтага часу вучобу, 1469 чал. ці каля 43 проц. неабходнага ліку. А калі лічыць нармальны процант адсеву, дык атрымаюцца больш нездавальняючыя лічбы. Неабходна прыняць рашучыя меры, а гэта магчыма толькі шляхам рэорганізацыі ўсёй сыстэмы Акадэміі, што дасьць адпаведныя неабходныя вынікі (пашырэньне прыёму, зьнішчэньне двухгодніцтва, цякучасьці і г. д.).

Да гэтага часу ў нас у Акадэміі меліся наступныя ненармальнасьці: першае—выпуск Акадэміі за 2 гады паказвае, што скончыла Акадэмію 351 чал., а выключана і выбыла 336 чал., 2) двухгодніцтва за гэты час паказвае таксама, што ня ўсё добра ў гэтых адносінах. За 2 гады 507 чал. пакінуты на 2-гі год. Калі паглядзець, на якім жа курсе больш застаюцца на 2-гі год, дык убачым, што гэта адна з найбольш вялікіх ненармальнасьцяй можа нямала пашкодзіць нам у адносінах атрыманьня неабходных нам кадраў для патрэб сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі.

Застаўлена на 2-гі год:

У 1927-28 вуч. годзе.

| | |
|---|---|
| На 1-м курсе | 14 ч. |
| „ 2-м „ | 41 „ |
| „ 3-м „ | 46 „ |
| „ 4-м „ | 117 „ |
| | 218 ч. |

У 1928-29 г.

| | |
|---|---|
| На 1-м курсе | 11 ч. |
| „ 2-м „ | 31 „ |
| „ 3-м „ | 74 „ |
| „ 4-м „ | 173 „ |
| | 289 ч. |

З гэтага відаць, што найбольш пагражаючае распаўсюджаньне другагодніцтва атрымліваецца на апошніх курсах. Гэтыя лічбы гавораць за тое, што ў далейшым нецярпіма такое становішча, яно пагражае зрывам нашых меркаваньняў у адносінах атрыманьня неабходных кадраў.

Як зьнішчыць гэтую ненармальнасьць? Патрэбны сур'ёзныя адносіны да вучобы і да дысцыпліны ў нашых навуковых установах. Гэта і дасюль не зачэпленыя месцы, паміж тым, як ім неабходна ўлучыць максымум увагі. Гэта можна зрабіць шляхам сацыялістычнага спаборніцтва, якое павінна ў асноўным зьмяшчаць у сабе лепшыя і сур'ёзныя адносіны да вучобы і да своечасовага скончэньня і выжыцьця двухгодніцтва.

Акрамя гэтага ў навуковых установах, асабліва ў Акадэміі павінны, па прыкладах фабрык і заводаў, існаваць ударныя брыгады (факультэты, групы), якія павінны цягнуць за сабою ня толькі адстаючых студэнтаў, але і навуковых працаўнікоў.

Да гэтага часу дысцыпліна, соц. спаборніцтва ў Акадэміі пастаўлена нездавальняюча (атсутніч. амаль сацыялістычнага спаборніцтва). На чале руху за лепшае і своечасовае скончэньне Акадэміі павінна стаць партыйнае і камсамольскае ядро, а да гэтага часу партыйцы і камсамольцы ня ішлі наперадзе, наадварот, цягнуліся ў хвасьце. Процант выключаных, выбыўшых і астаўшыхся на другі год сярод партыйцаў і камсамольцаў большы, чым сярод астатніх. Такое становішча маецца і з дысцыплінай.

Калі паглядзець на сац. і парт. твар студэнтаў Акадэміі, на іх настроі, дык мы ўбачым, што ў гэтых адносінах ня ўсё добра. Членаў і кандыдатаў партыі вучыцца ў Акадэміі 13 проц. Сац. склад усёй акадэміі такі: рабочых—23 проц., сялян (дыфэрэнцыяцыі няма)—51 проц., служачых — 22 проц., саматужнікаў і інш.—4 проц. У Акадэміі сярод студэнтаў маюцца настроі яўна кулацкія. Таксама і ў адносінах палітычнага ўзроўня студэнцтва справы абстаяць вельмі

кепска. Дастаткова прывесьці такі прыклад, што ў часе чысткі і праверкі парткалектыву выясьнілася, што вельмі вялікая колькасьць студэнтаў партыйцаў нічога ня знаюць аб палітыцы партыі на вёсцы, таксама высьвятлілася няведаньне асноўных рашэньняў 15 партыйнага зьезду і 16-й партканфэрэнцыі. Усё гэта гаворыць за тое, што ў галоуных, асноўных пытаньнях падрыхтоўкі кадраў мы мала зьвярнулі ўвагі на выжыцьцё акадэмізму ў самым горшым сэнсе гэтага слова.

Усе гэтыя факты гавораць, што барацьбе з кулацкімі настроямі ў студэнцкім асяродзьдзі было ўдзелена мала ўвагі. Таксама неабходна адзначыць, што пытаньню барацьбе з права-апартуністычнай небясьпекай, з дзяляцтвам унутры ячэйкі амаль ня было ўдзелена ўвагі. Калі ня прыняць неабходныя меры да выжыцьця гэтых ненармальнасьцяй, дык мы не атрымаем патрэбных кадраў для перабудовы вёскі. Кадраў, моцна зьвязаных з працоўнымі масамі, пісьменных палітычна, актыўных барацьбітоў за пераробку дробнай і драбнейшай гаспадаркі.

У адносінах кадраў навуковых працаўнікоў, якія рыхтуюць студэнтаў, таксама абстаіць ня ўсё добра. Дастаткова паказаць на такі факт, што да гэтага году панаваў у Акадэміі дацэнт Кісьлякоў, якому належыць тэорыя мінімальных і максымальных формаў і такая „навуковая“ праца (за што ён папаў у прафэсары), як „Пасёлкі“ і інш., або тое, што сярод прафэсуры маецца вельмі вялікая група „былых“ людзей, а некаторыя з іх папалі ў Акадэмію пасьля звальненьня з цэнтральных ВНУ, а сярод асыстэнтаў налічваецца большая колькасьць дзяцей кулакоў. Тады стане ясна, што ў гэтых адносінах ня ўсё добра і патрабуецца неадкладнае прыняцьце адпаведных мер у гэтых адносінах.

Усё гэта гаворыць аб тым, што Акадэмія патрабуе штодзённай ўвагі з боку нашых кіруючых арганізацый.

Неабходна: 1) у бліжэйшы час узмацніць Акадэмію пасылкай туды вытрыманых партыйцаў—навуковых работнікаў; 2) у бліжэйшыя гады паслаць у Акадэмію ў лік „1000“ большы лік рабочых і членаў партыі, пашырыць і рэарганізаваць факультэты, якія маюцца; 3) ажыцьцявіць і праводзіць самакрытыку, якая ў Акадэміі адсутнічае, праводзячы яе, галоўным чынам, навокал мэтодаў выкладаньня і адносін да вучобы; 4) неадкладна прыступіць да перабудовы ўсёй структуры Акадэміі па прыкладу Ціміразеўскай С.-Г. Акадэміі; 5) неадкладна перайсьці да цыклявой сыстэмы выкладаньня, што дасьць магчымасьць больш хутка і лепш канчаць Акадэмію (гэта пытаньне ўжо часткова паднята ў Акадэміі, але яго неабходна больш хутка вырашыць); 6) неабходна лепш увязаць работу Навукова-Дасьледчага Ін-туту імя Леніна з работай СГА. Недапушчальна, каб у далейшым існавала такое становішча якое маецца зараз паміж Акадэміяй і НДІ (перацяганьне навуковых работнікаў з Акадэміі, у якіх і так адчуваецца вялікі недахоп, нераўнамернасьць у адносінах адпускаемых сум на дасьледчую работу і інш.); 7) прыступіць неадкладна да намечанага пляну будаўніцтва (неабходна зараз прыступіць да загатоўкі будаўнічых матар'ялаў), без чаго немагчыма прыступаць да рэарганізацыі вучэбнай работы (адсутнасьць памяшканьня). інтэрнатаў. Таксама неабходна прыступіць да рэарганізацыі саўгасаўфэрм, якія маюцца (Іванаўскі і Горацкі) у адну буйную фэрму. Да ўсяго гэтага можна будзе прыступіць толькі тады, калі бюджэт Акадэміі (які складае 1.352.928 руб. і які не здавальняе мінімальных патрэб) будзе неадкладна перагледжаны і павялічаны.

Правядзеньне ўсіх паказаных намі мерапрыёмств (дысцыпліна сярод студэнтаў і лепшыя адносіны да

вучобы, разьвіцьцё самакрытыкі, організацыя ўдарных брыгад, выжыцьцё апалітычнасьці і інш.), удзяленьне максымуму ўвагі з боку кіруючых устаноў Акадэміі дасьць магчымасьць выйсьці з таго тупіку, у якім знаходзіцца Акадэмія, і яна зможа справіцца з ускладзенымі на яе задачамі.

**Ц. Астолкер.**

# Аб скрыўленьні лініі партыі і аб недахопах у Залінейнай партарганізацыі.

Залінейны раён у Гомелі гэта адзін з самых буйных пролетарскіх раёнаў Беларусі. І мы маем права патрабаваць ад такога раёну паказальнай работы ў галіне праявдзеньня чоткай клясавай лініі партыі і барацьбы з апартунізмам. На справе-ж гэтага няма. Матар'ял, які ў нас маецца, вось як асьвятляе становішча і работу Залінейнай організацыі. Мы падкрэсьліваем, што далей будзем гаварыць толькі аб недахопах.

Першае пытаньне, на якое нам хацелася-б адказаць, як таварышы мабілізавалі шырачэйшыя рабочыя масы навакол асноўных мерапрыемстваў партыі, а такімі за апошні пэрыяд былі сацыялістычнае спаборніцтва, калектывізацыя с.-гаспадаркі, пазыка індустрыялізацыі, беларусізацыя. У галіне сац. спаборніцтва мы там маем такое становішча. Рабочыя падтрымлівалі ініцыятыву партыі аб сац. спаборніцтве. Стваралі брыгады, зьніжалі расцэнкі і г. д. Але гэта ініцыятыва ня была падтрымана як належыць нізавымі партарганізацыямі, у першую чаргу праforганамі.

Райком партыі і вучкапрафсожня сумелі сканцэнтраваць на гэтым неабходную ўвагу, дрэнна кіравалі, дрэнна вялі барацьбу з перашкодамі і ў выніку ў канцы лета мы маем такое становішча, што сац. спаборніцтва пашло на ўбыль. У сац. спаборніцтва ня былі ўцягнуты асноўныя масы рабочых, вось першы вынік з ацэнкі працы арганізацыі. Гэтае становішча можна падцьвердзіць такім фактам,—у канцы кастрычніка у Гомельскіх майстэрнях, дзе працавала каля 1500 рабочых і служачых і дзе было каля 600 партыйцаў, камсамольцаў, было ўсяго 8 ударных брыгад і ў іх было ўсяго 52 чал., з некаторымі зьменамі так было ўсюды.

Другой асноўнай задачай партыі за апошні год было максымальнае разгортваньне сац. рэканструкцыі с.-гаспадаркі праз будаўніцтва калгасаў. Як арганізацыя справілася з гэтай задачай? Раней, як перайсьці да адказу, пакажам на наступнае:

Каля 25% рабочых-чыгуначнікаў жыве на вёсцы. З іх большая частка мае ўласную гаспадарку, прыкладна ў 20 вёсках жывуць досыць буйныя групы рабочых. Калі ацаніць работу, праведзеную арганізацыяй у гэтай галіне па дасягнутых выніках, дык мы пабачым такі малюнак. Ні адзін рабочы не састаіць у калгасе, рабочыя Залінейнага раёну не стварылі ніводнага калгасу. Яшчэ горш, ні адзін камуніст Залінейнай організацыі, які жыве на вёсцы, таксама не састаіць у калгасе. Ёсьць цэлы шэраг фактаў, якія падцьвярджаюць наступнае становішча, як рабочыя, так і камуністыя часта не стаяць на чале калектывізацыі, а наадварот плятуцца ў гэтым пытаньні за кулаком. Пытаньне арганізацыі беднаты і барацьбы з кулацтвам, пытаньні самаабкладаньня, пытаньні хлебанарыхтовак с.-гасп. падатку як быццам бы нават не стаялі перад арганізацыяй, бо частка членаў партыі і рабочых у гэтых пытаньнях плялася ў хвасьце, або за кулакамі.

Шэфпраца таксама не дапамагае калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Такое становішча мы маем таму, што т. т. не паклапаціліся правесьці



ў жыцьцё генэральную лінію нашай партыі ў галіне калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Нават і кіраўніцтва гэтымі пытаньнямі не займалася ў той час, як пытаньнем індывідуальнай гаспадаркі займалася многа.

Трэцяя асноўная палітычная кампанія за апошні час было распаўсюджаньне 3-яе пазыкі індустрыялізацыі. Як абстаіць справа з выкананьнем гэтай задачы? Каля 50% камуністаў і камсамольцаў у майстэрнях, каля 30% партыйцаў і камсамольцаў у такіх буйных калектывах, як Дэпо сарціровачнае, 3-ці вучастак цягі падпісаліся на заём на суму значна меншую месячнага заробку, у разьмеры прыкладна 25—50% свайго заробку. Ня трэба іншых прыкладаў, досыць толькі аднаго гэтага, каб зразумець, што ў раёне зусім нядобра, нават камуністы не змаглі выканаць элемэнтарнага доўгу перад пралетарскай дзяржавай, што-ж патрабаваць ад беспартыйных? У процантных адносінах колькасьць беспартыйных, якія падпісаліся на 3-ю пазыку індустрыялізацыі на суму менш месячнага заробку ня больш проценту камуністаў.

Ва ўмовах Беларусі аднэй з важнейшых палітычных задач зьяўляецца правядзеньне нац. палітыкі нашай партыі. Канкрэтна перад арганізацыяй стаіць задача правесьці беларусізацыю. Трэба было-б ужо перайсьці на беларускую мову. Якое-ж тут становішча? Іначай як найгоршым яго назваць нельга.

Ніводная арганізацыя поўнасьцю не перайшла на белмову. Гэта сьведчыць аб тым, што т. т. ня сумелі мабілізаваць масы навакол правядзеньня ў жыцьцё гэтай асноўнай дырэктывы.

Цяпер паглядзім, як была разгорнута ў арганізацыі самакрытыка. Можна было-б абмежавацца аднэй фразаю,—разгорнутай самакрытыкі там няма. Так, калі ўзяць галоўныя Гомельскія майстэрні, там самакрытыка душылася, нацкоўваліся рабкоры, распраўляліся з тым, хто гаварыў праўду, прышлося перавабраць бюро калектыву некаторых цэхавых ячэек за дрэннае становішча самакрытыкі, за гэтае-ж перавыбіраўся і мясцком.

У Дэпо сарціровачных дайшло да таго, што сакратара выганялі з цэху, на рабочых увесь час крычалі „звольню“, „перадам у ДПУ“ і г. д. У ячэйцы асьветы каля 30% складу было выключана з партыі пры чыстцы, і яшчэ гэтулькі атрымалі вымовы і інш. спагнаньні.

Ня маючы магчымасьці прыводзіць шмат фактаў, пакажу, што вельмі было дрэнна з самакрытыкай на пабудове клюбу, у ячэйцы „Гомельхоз“, майстэрнях тэлеграфу, іншых ячэйках, хоць і было некалькі лепш, але ўсё-ж там канстатавалі, што рабочыя баяцца гаварыць. Так РК Партыі ажыцьцявіў важнейшую дырэктыву партыі па разгортваньню самакрытыкі і кіраўніцтва ёю.

Раней чым перайсьці да цэнтральнага пытаньне, як у раёне вялі барацьбу з правым ухілам і да адказу на пытаньне, дзе прычыны, якія парадзілі гэтыя недахопы і прарывы ў рабоце, у некалькіх словах пакажам на становішча асноўных прывадных рамнёў партыі к рабочым масам. Учкапрафсож ня сумеў павярнуцца тварам да вытворчасьці. Ён ня змог забясьпечыць кіраўніцтва сац. спаборніцтвам, ён ня змог забясьпечыць і арганізаваць садзейнічаньне калектывізацыі сельскай гаспадаркі; Учкапрафсож ня сумеў разгарнуць самакрытыкі, ня вёў барацьбы з зажымам самакрытыкі на мясцох, ён не правёў беларусізацыі. Матар'яльна бытавыя інтарэсы рабочых Учкапрафсож ня сумеў як сьлед абараняць. Апарат бюракратычны, скрыўленьне клясавай лініі, вось з чым мы сустракаемся пры аналізе работы Учкапрафсожу. Бюро райкому КСМ таксама ня справілася з сваімі задачамі. Так яно ня сумела забясьпечыць уцягненьне моладзі ў сац. спаборніцтва. Пытаньні правага ўхілу ўсвоены дрэнна, беларусіза-

цыя не праведзена. У спажывецкай каапэрацыі таксама маюцца буйнейшыя скрыўленьні клясавай лініі. Спашлемся хоць бы на тое, што ДТПО сваю работу ў асноўным будавала на гандлі, а не на рабочым снабжэньні. Так, група чыгуначнікаў, якая ня мае сваёй гаспадаркі ў выніку няправільнай лініі ДТПО фактычна горш абслугоўвалася, як тая частка рабочых, якая мае сваю ўласную гаспадарку.

А цяпер пяройдзем да пытаньня барацьбы з правым ухілам. У Залінейным раёне ня ўсвоілі як сьлед небясьпекі правага ўхілу. Таварышы былі дрэнна мабілізаваны на барацьбу з канкрэтнымі праявамі небясьпекі, з апартуністычнымі памылкамі. У рабоце арганізацыі ў галіне садзейнічаньня калектывізацыі наяўнае адсутнічаньне барацьбы з апартуністымі на практыцы. У галіне самакрытыкі таксама наяўнае адсутнічаньне барацьбы з апартуністымі на практыцы. Ня было патрэбнай барацьбы з скрыўленьнямі клясавай лініі ў рабоце органаў асьветы, ня было патрэбнай барацьбы з праявамі хвасьцізму ў частцы парт. арганізацыі і сярод часткі рабочых, ня была разгорнута сваячасова рашучая барацьба з памылкамі ў рабоце Ўчкапрафсожу і каапэрацыі.

Ня было барацьбы з скрыўленьнямі лініі партыі ў галіне жыльлёвага будаўніцтва. Калі да гэтага прыбавіць, што таварышы ня былі мабілізаваны на барацьбу з нацыяналдэмакратызмам, што не змаглі паставіць як сьлед барацьбу з праявамі расійскага шавінізму, дык стане яскрава, што арганізацыя ня была мабілізавана ў патрэбнай меры на барацьбу з правай небясьпекай. Пакажам тут яшчэ на адзін прыклад слабасьці барацьбы з правай небясьпекай. У дырэктыўнай частцы рэзалюцыі чэрвеньскай райпартканфэрэнцыі няма ніводнага слова аб барацьбе з правай небясьпекай. Прыбаўляць да ўсяго гэтага, думаецца нічога ня трэба.

Дрэнная мабілізацыя партыі на барацьбу з правай небясьпекай цалкам і канкрэтнымі апартуністычнымі памылкамі ў рабоце Ўчкапрафсожу, каапэрацыі, шэф. таварыства і ў шэрагу буйнейшых ячэек, усё гэта само па сабе зьяўляецца буйнейшым недахопам у рабоце арганізацыі. Гэта зьяўляецца асноўнай прычынай цэлага шэрагу другіх недахопаў. РК ня змог забясьпечыць правядзеньне чоткай клясавай лініі ў шэрагу важнейшых пытаньняў. Масавая работа ў раёне пастаўлена вельмі дрэнна. Асноўны недахоп у масавай рабоце заключаецца ў тым, што таварышы не змаглі прыспасобіць масавую работу да асаблівасьцяй складу рабочых Залінейнага раёну. Вясковая частка рабочых была вельмі дрэнна ўцягнута ў работу і яшчэ горш абслугоўвалася і выхоўвалася. Зьмест масавай работы стаяў на вельмі нізкім узроўні, гэта можна заключыць з таго, як рабочыя былі мабілізаваны навокал асноўных задач партыі. Мы мелі такое становішча, што настрой рвачаства, пасыўнасьці сярод адсталай часткі рабочых бралі часамі верх. Арганізацыя ня была ў патрэбнай меры мабілізавана супроць гэтых адсталых настрояў, таксама як і асноўныя кадры рабочых. Усе гэтыя недахопы работы знашлі свой адбітак ў слабым прытоку ў партыі. Да пытаньняў становішча ў Залінейным раёне мы яшчэ вернемся. Абмяжуемся ў заключэньне спасылкай на рэзалюцыю бюро ЦК партыі аб Залінейнай арганізацыі, якая зьмешчана ў гэтым-жа нумары. Там таварышы знойдуць ацэнку работы арганізацыі, кіраўніцтва і асноўныя палітычныя дырэктывы ЦК Залінейнай арганізацыі.

**Танхілевіч.**

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Рэзолюцыя нарады сакратароў саўгаскіх і калгаскіх ячэек КП(б)Б па дакладу Наркамзема тав. Рачыцкага аб калгасным будаўніцтве на БССР.

*(Зацьверджана Сакратарыятам ЦК КП(б)Б).*

На аснове правядзеньня генэральнай лініі КП(б)Б, накіраванай на рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты ў сельскай гаспадарцы, праз шырокае разгортваньне калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, маюцца значныя посьпехі ў галіне перабудовы сельскае гаспадаркі на соцыялістычных падставах. Батрацтва і асноўныя бядняцка-серадняцкія пласты сялянства асазналі, што адзіным шляхам, забясьпечваючым сапраўдны ўздым сельскае гаспадаркі, зьяўляецца колектывізацыя, і магутнай хваляй імкнуцца да арганізацыі калгасаў. Тэмп арганізацыі калгасаў даўно апярэдзіў ужо ўсе нашы плянавыя меркаваньні і к сучаснаму моманту ў БССР маюцца наступныя посьпехі.

1. Сетка калгасаў, якая налічвала на 1/X 1928 г. 994 адзінкі на плошчы 94.458 *га* узрасла на 1/X 1929 г. да 1713 калгасаў на агульнай плошчы ў 336.720 *га* супроць вызначаўшыхся па пляну 1.354 калгасаў з плошчай 147.258 *га*.

2. Разам з павялічэньнем колькасьці калгасаў некалькі павысілася і якасьць іх, сярэдняя плошча новых калгасаў павялічылася з 65 *га* ў 1928 г. да 235 *га* ў 1929 г. У выніку ўзбуйненьня старых калгасаў, як шляхам іх зьліяньня, так і далучэньня да іх вакольных сялянскіх гаспадарак, разьмер аднаго калгасу павысіўся з 91,7 *га* да 196 *га*.

3. З пераходам да організацыі буйных калгасаў, калгасны рух набыў масавы характар, ахапляючы сплашной колектывізацыяй ня толькі цэлыя сельсаветы, але і цэлыя раёны (Ляднянскі, Клімавіцкі, Рагачэўскі, Хоцімскі, Калінкавіцкі і інш.), у якіх ахоплена колектывізацыяй ад 15 да 60 проц. усёй зямельнай плошчы раёну.

4. Павялічыўшыся тэмп калгаснага руху, ахопліваючы ўсё больш і больш шырокія колы бядняцка-серадняцкага сялянства, мае свой уплыў на палепшаньне соцыяльнага складу членаў калгасаў з павялічэньнем бядняцка-серадняцкай праслойкі, якая складае ў сучасны момант 99,7 проц. усяго насельніцтва калгасаў (68,8% беднаты і 30,9% серадняков з паніжэньнем проценту заможных з 4,7% на 1-X 1928 г. да 0,3% на 15-VI—29 г.).

5. Калгасны рух мае посьпехі ня толькі сярод беларускага насельніцтва, але і сярод іншых нацыянальнасьцяй БССР, даўшы дасягненьні па калгаснаму будаўніцтву сярод яўрэйскіх мас мястэчка Беларусі (яўрэйскія калгасы складаюць каля 16% усёй калгаснай сеткі БССР) таксама ўсіліўшаяся праца з беднатой сялян палякаў павялічыла расслаеньне сярод польскага сялянства, у выніку чаго ўзмацнілася цяга бядняцка-серадняцкіх мас сялян палякаў у калгасы, выразіўшаяся ўступленьнем іх у організуючыяся калгасы ва ўсіх раёнах БССР і арганізацыі буйных калгасаў у нацыянальных сельсаветах (Замасточча, Сьмілаўскага раёну і інш.).

Разам з маючыміся дасягненьнямі, нарада адзначае ў калгасным будаўніцтвё наступныя хваравітыя зьявішчы:

1. Праяўленьне асобных фактаў нядбайнасьці і скажэньня клясавай лініі з боку асобных вясковых і нават раённых кіраўнікоў устаноў садзейнічала ў гэтых выпадках некатораму посьпеху кулацтва ў разбурэньні ўноў організуючыхся калгасаў (Буда-Кашалеўскі і Чырвонапольскі раён).

2. Сябры партыі—калгасьнікі не заўсёды зьяўляюцца прыкладам вытворчай дысцыпліны і гаспадарчай зацікаўленасьці і ў быту.

3. Зусім недастатковы колькасны і якасны склад працаўнікоў у саўгасах і калгасах, як кіраўнікі і тэхнічны пэрсонал.

4. Недастатковасьць абагульненьня маёмасьці і сродкаў вытворчасьці ўваходзячых у калгасы сельскіх гаспадарак і недапушчальна нізкі процант у калгасах непадзельных капіталаў і ў гэтай галіне амаль што нічога ня зроблена як Белкалгассаюзам, гэтак і мясцовымі органамі па зьнішчэньню гэтакіх адмоўных зьявішч.

5. Наліччa зьявішч, калі сяляне (беднякі і серадлякі) уваходзячыя ў калгас прадаюць частку сваёй маемасьці, застаўляючы толькі частку на пай і адначасова прад'яўляюць да дзяржавы шэраг вялікіх запатрабаваньняў у сродках з самага пачатку організацыі калгасаў.

6. Ухіленьне некаторых калгасаў ад здачы дзяржаве сваіх таварных лішкаў зярна, прадуктаў і сыравіны, прадаючы гэткія на прыватным рынку, адмова ад контрактацыі альбо невыкананьне дагавораў па контрактацыі.

7. Скарыстаньне крэдытаў не па прызначэньню і наліччa фактаў падзелу атрыманых крэдытаў паміж асобнымі гаспадаркамі нават і на нявытворчыя патрэбы.

8. Дробнасьць вялікай колькасьці старых калгасаў і нежаданьне апошніх прылучыць да сябе вакольныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі.

9. Адсутнасьць організацыйных і вытворчых плянаў, дзякуючы чаму ў большасьці калгасаў ня маецца гаспадарчага напрамку і нізкая вытворчасьць і якасьць працы.

10. Недастаткова ўдзяляецца ўвага жывёлагадоўлі, як у саўгасах, так і ў калгасах, і палепшаньне і пашырэньне кармавога балянсу (пасеў траў, палепшаньне сенажацяй, сіласаваньне кармоў і інш.).

11. Слабае правядзеньне саўгасамі і калгасамі соцыялістычнага спаборніцтва і недастатковая дапамога калгасам у гэтай справе з боку мясцовых організацый і агрономіі. Дрэнна праводзіцца праца па аграмінімуму.

12. Недастатковасьць, як па колькасьці, так і па якасьці палітасьветнай і культурна-масавай працы ў саўгасах і калгасах, адсутнасьць с.-г. літаратуры, асабліва масавай, і адсутнасьць увагі з боку палітасьветных устаноў у галіне абслугоўваньня калгасаў кіно і радыё.

13. Незабясьпечанасьць калгассыстэмы адпаведнымі кадрамі працаўнікоў, што не дае магчымасьці калгассаюзам практычна дапамагаць калгасам ва ўсёй іх працы.

На падставе паказаных вышэй недахопаў, лічыць неабходным:

1. Нарада з вялікім здавальненьнем вітае пастанову верасеньскага пленуму ЦК КП(б)Б, які з усёй рашучасьцю ўдарыў па ўсіх тых, хто ня бачыў пэрспэктыў разьвіцьця калгаснага будаўніцтва ва ўмовах Беларусі і асудзіў гэтую права-опортуністычную кулацкую лінію былога кіраўніцтва Наркамзему, як стаўку на хутар замест колектывізацыі, што гэты пленум зусім яскрава і сваячасова выпраміў паказаныя скрыўленьні ў рабоце зямельных органаў і зрабіў рашучы пералом у галіне разьвіцьця сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах. Усё гэта патрабуе строгага правядзеньня пролетарска-клясавай лініі ў рабоце мясцовых органаў, рашучай барацьбы з праявамі правага ўхілу і прымірэнчымі адносінамі да яго, завастрэньня і ўзмацненьня ўвагі ўсіх партыйных, савецкіх, профэсыянальных і іншых грамадзкіх устаноў БССР па мобілізацыі рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас навакол разгортваньня буйнага калгаснага і саўгаснага будаўніцтва і вытворчага коопэраваньня, а таксама рашучага наступленьня на кулака і выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў вёсцы.

2. Прымаючы пад увагу шырокі рух бядняцка-серадняцкага сялянства ў бок масавай колектывізацыі, вызначаныя ліміты верасеньскага пленуму ЦК КП(б)Б лічыць як мінімум і скласьці ў кожнай акрузе пляны сплашной колектывізацыі, прадугледзіўшы на 1929-30 г. перавод ня менш, чым 2-х раёнаў і 10 сельсаветаў у кожнай акрузе на сплашную колектывізацыю, зьвярнуўшы выключную ўвагу пры гэтым на прымежныя і ільнаводныя раёны і раёны пабудовы буйных электрычных станцый, прадугледзіўшы неабходнасьць скарыстаньня ў далейшым электрычнай энэргіі ў сельскагаспадарчай вытворчасьці.

3. Для ўзмацненьня і ўзбуйненьня, як існуючых, так і ізноў організаваных калгасаў, павялічыць і паглыбіць працу па іх організацыйнаму і агравытворчаму абслугоўваньню як з боку калгаснай сыстэмы, і земорганаў, так і ўсіх савецкіх коопэрацыйных устаноў, дапамагаючых хутчэйшаму афармленьню калгасаў і лепшай пастаноўцы іх працы. Рэорганізаваць у законадаўчым парадку сыстэму абслугоўваньня калгасаў земорганамі, прыстасаваўшы іх для выкананьня задачы па больш шпаркаму правядзеньню колектывізацыі вёскі і таксама правёўшы ўсю працу мясцовых устаноў на рэйкі спрыяючай колектывізацыі.

4. Прыняць меры да забясьпечаньня больш хуткага пераводу прасьцейшых сел.-гасп. вытворчых аб'яднаньняў у арцелі і камуны.

5. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўзмацненьне і падрыхтоўку калгасных кадраў, даручыць Наркамасьветы ўзмацніць і пашырыць існуючы факультэт і тэхніку колектыўнага земляробства, організаваць сетку спэцыяльных прафшкол, інстытутаў практыкаў, школ сацвыху пры моцных і буйных калгасах, а таксама Наркамзему з Белкалгассаюзам на працягу зімы правесьці шырокую працу на падрыхтоўцы калгасных кадраў з ліку калгасьнікаў, шляхам організацыі акруговых, раённых і іншых курсаў, каб ахапіць на курсах усю сетку калгасаў, а на курсах, рыхтуючых кадры для кіраўніцтва асобнымі галінамі сельскае гаспадаркі, ахапіць ня менш 50% калгаснай сеткі. Устанавіць абавязковы тэрмін працы ў калгасах ці ў саўгасах для аканчваючых с.-г. ВНУ і Тэхнікумы, адначасова ўстанавіць абавязковы зварот па сканчэньні вучобы ў с.-г. навучальных установах асоб, пасланых калгасам, назад для працы ў гэтым калгасе.

6. Правесьці рашучую працу па павялічэньню абагуленых сродкаў вытворчасьці ў калгасах, дабіцца рашучага павялічэньня непадзельных капіталаў за лік большых адлічэньняў, забясьпечваючы належнымі мерапрыёмствамі далейшы ўзрост сродкаў вытворчасьці і непадзельных капіталаў у калгасах. Ва ўсіх калгасах, з'організаваных да 1 кастрычніка 1929 г., правесьці 100% абагуленьне мёртвага і жывога інвэнтара, гэтак і будынкаў за час да канца 1930 г.

7. Падвысіць пасяўную плошчу да 80% за кошт незанятага папару і залежаў, ліквідуючы на 100% недасевы.

8. Ажыцьцявіць у калгасах 100% выкананьне аграмінімуму, забясьпечыўшы выкананьне лімітаў уздыму ўраджайнасьці (12%), а таксама шырока разгарнуць, па прыкладу прамысловых рабочых, у саўгасах і калгасах соцыялістычнае спаборніцтва як паміж калгасамі і саўгасамі, так і паміж асобнымі галінамі вытворчасьці ўнутры калгасаў і саўгасаў.

9. Правесьці мерапрыемствы па спэцыялізацыі калгасаў, зьвярнуўшы асобную ўвагу на разгортваньне ў калгасах жывёлагадоўлі і павялічэньня кармавога балянсу, шляхам палепшаньня сенажацяў, пасеваў траў і разьвіцьця масавага сіласаваньня.

10. Прыняць неабходныя меры для забясьпечаньня калгасаў БССР у 1929-1930 г. ня менш як 3-мя трактарнымі станцыямі і 20-ю трактарнымі калёнамі. Больш шырока разгарнуць у вёсцы дабраахвотны збор сродкаў на трактарную калёну БССР.

11. Дзеля большага скарыстаньня ў калгасах і саўгасах с.-г. машыны, якіх не хапае, лічыць неабходным як організуемыя трактарныя калёны, таксама і асобна працуючыя

трактары і складаныя с.-г. машыны, скарыстоўваць у бесьперапыннай працы штодзённа і па магчымасьці ў дзьве зьмены.

12. Прыняць захады да поўнага і своечасовага пляну будаўніцтва тэхнічных прадпрыемстваў у калгасах, забясьпечыўшы гэтаму будаўніцтву тэхнічную дапамогу з боку адпаведных акруговых і цэнтральных устаноў.

13. Перагледзець пляны індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі у бок павялічэньня колькасьці прадпрыемстваў, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на малочную прамысловасьць і па перапрацоўцы тэхнічных культур і бульбы.

14. Дабіцца на працягу зімы складаньня ва ўсіх буйных калгасах арганізацыйных, а ва ўсіх астатніх калгасах—вытворчых плянаў у напрамку спэцыялізацыі паасобных галін. БКГ саюзу і Акруговым КГСаюзам зараз-жа прыступіць да гэтай працы, прыцягваючы спэцыялістых розных галін сельскай гаспадаркі.

15. Неадкладна разгарнуць шырокую працу за выкананьне з боку калгасаў іх абавязкаў перад дзяржавай па здачы таварных лішкаў і выкананьне дагавароў па контрактацыі, скарыстаньне па прызначэньню крэдытаў і г. д. Прыняць рашучыя захады да тых, якія злосна ўхіляюцца ад выкананьня гэтых абавязкаў, прыцягваючы да адказнасьці асобных кіраўнікоў і не застанаўлівацца перад рэарганізацыяй альбо ліквідацыяй неісправімых калгасаў (лжэ-калгасы).

16. Улічваючы шырокі рух колектывізацыі і немагчымасьці поўнасьцю забясьпечаньня калгаснага будаўніцтва дзяржаўнымі сродкамі, прыняць усе захады да ўсё большага ўцягненьня для гэтай мэты сродкаў насельніцтва, аб'ядноўваючыхся ў гэты калгас. БК Саюзу распрацаваць мерапрыемствы дзеля забясьпечаньня ўваходжаньня гаспадарак у калгас з усёй іх маемасьцю і сродкамі вытворчасьці.

17. У сувязі з наданьнем калгаснай сыстэме гаспадарчых функцый перагледзець статуты Калгассаюзу і куст. аб'яднаньняў і ўтварыць у калгасах і кустовых аб'яднаньнях асноўныя капіталы.

18. БКСаюзу вывучыць пытаньне аб мэтазгоднасьці арганізацыі Райкалгассаюзаў у раёнах сплашной колектывізацыі.

19. У адносінах культасьветнай працы асабліва важнай задачай стаіць праца па 100% ліквідацыі няпісьменасьці і малапісьменнасьці ў калгасах, пры чым у калгасах з арганізаваных і афармленых да 1/X 29 г. поўнасьцю зьліквідаваць няпісьменнасьць на працягу зімы г. г. і ў кожным буйным калгасе звыш 1000 *га* альбо ў кожным кусьце і ў раёнах сплашной колектывізацыі адчыніць клюбы і хаты-чытальні.

20. Радыё-цэнтру, калгассаюзу, з дапамогай мясцовых органаў да 1 студзеня радыёфіціраваць 6 раёнаў масавай колектывізацыі, таксама і асобныя калгасы з такім разьлікам, каб да канца 1929-30 г. радыёфіціраваць 20% калгасаў, таксама забясьпечыць іх тэхнічным абслугоўваньнем радыё-установак.

21. Дабіцца прасоўваньня ўва ўсе калгасы с. г. літаратуры, большай колькасьці газэт і спэцыяльных часопісаў.

22. Адчыніць ясьлі ўва ўсіх калгасах звыш 300 *га*, прыцягнуўшы магчыма больш сродкаў самых калгасаў.

23. Ажывіць працу культкамісій у калгасах, прыняўшы крокі да арганізацыі належнага кіраўніцтва імі. Правесьці ва ўсіх раёнах нарады культурна-бытавых камісій, а ў некаторых мясцох нават спэцыяльныя курсы канфэрэнцыі па акругах з мэтай найлепшага правядзеньня культмінімуму, мяркуемага на наступны год.

24. Вылучыць спэцыяльныя крэдыты на пабудову культурна-бытавых устаноў у раёнах сплашной колектывізацыі і ў буйных калгасах, вызначаючы гэтыя крэдыты з бюджэтных асыгнаваньняў на 1929-30 г. Стварыць спэцыяльны фонд доўгатэрміновага ільготнага крэдытаваньня на мэты радыёфікацыі, кінофікацыі, раёнаў сплашной колектывізацыі і калгасаў.

25. У мэтах палепшаньня мер абслугоўваньня калгаснай сеткі БССР даручыць НК Аховы здароўя арганізаваць сетку мэдыцынскіх устаноў на буйных калгасах, кустовых аб'яднаньнях і ў раёнах сплашной колектывізацыі, аднačасова прыняць меры да забясьпечаньня ўсіх калгасаў аптэчкамі дзеля першай мэддапамогі.

26. У мэтах большага ўцягненьня ў калгасы батракоў і беднаты павялічыць фонд кооперавання батракоў і беднаты ў калгасы да 1.421.000 р.

27. Да палепшаньня абслугоўваньня калгасаў спажывтаварамі прыняць захады да адчыненьня пры буйных калгасах і кустовых аб'яднаньнях крам спажывецкай коопэрацыі, прыняўшы меры да перабудовы існуючай сеткі крам, прыстасобіўшы іх да лепшага абслугоўваньня калгасаў і саўгасаў.

28. НКЗему вывучыць пытаньне наконт вапнаваньня глебы, прыняўшы крокі да распаўсюджваньня па раёнах, дзе гэта мерапрыемства садзейнічае падняцьцю ўраджайнасьці.

## Рэзолюцыя нарады сакратароў калгаскіх і саўгаскіх ячэек па дакладу аб чарговых задачах партыйнай выхаваўчай і масава-палітасьветнай працы ў калгасах і саўгасах.

*(Зацьверджаная Сакратарыятам ЦК КП(б)Б).*

1. Шырока разгарнуўшыся і ўсё ўзрастаючы тэмп індустрыялізацыі краіны і колектывізацыі сельскае гаспадаркі, наступленьне па ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва на капіталістычныя элемэнты, выклікае абвастрэньне клясавай барацьбы і ўзмацненьне супярэчаньняў кулацтва рабоце па соцыялістычнай рэконструкцыі вёскі. Усё гэта

ставіць перад парторганізацыямі з усёй рашучасьцю задачу ўзмацненьня ўсяе работы на вёсцы, узмацненьне кіраўніцтва і палепшаньне работы саўгаскіх і калгаскіх ячэек, каб забясьпечыць яшчэ больш шырокае разгортваньне калгаснага будаўніцтва і далейшае рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты вёскі.

2. Адзначаючы некаторае палепшаньне партработы ў калгасах і саўгасах (пашырылася сетка калгасных ячэек з 15 на 1/VII-28 г. да 90 на 1/X-29 г., саўгаскіх з 51 да 85%, некалькі палепшыўся зьмест працы ячэек. Аднак дырэктывы ЦК і XII-га зьезду КП(б)Б аб палепшаньні працы калгаскіх і саўгаскіх ячэек, аб узмацненьні вярбоўкі ў партыю батрацтва, рабочых, работніц саўгасаў і калгасьнікаў-беднякоў, аб пашырэньні сеткі ячэек—выконваюцца да апошняга часу ў большасьці арганізацый слаба (за першае паўгодзьдзе бягучага году па Менскай акрузе з агульнай колькасьці прынятых у партыю сялян, калгасьнікі складаюць толькі 8,2%, а па Гомельскай—7,7%).

3. Сучаснае становішча партпрацы ў саўгасах і калгасах (сетка ячэек, прыём у партыю і зьмест працы) у большасьці не адпавядае стаячым на даным этапе задачам. Ячэйкі ня сталі яшчэ ў сапраўднасьці апорнымі пунктамі партмасавай работы на вёсцы. За выключэньнем асобных ячэек, большасьць працуе яшчэ слаба, і ў практычнай працы іх ёсьць шмат буйных недахопаў, як-та:

а) ячэйкі не сканцэнтравалі сваёй увагі і працы на пытаньнях гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў і саўгасаў. Мала звярочваецца ўвагі зьніжэньню сабекошту продукцыі, узьняцьцю вытворчасьці працы, амаль ня кіруюць ячэйкі саўгасаў працай вытворчых нарад.

Калгасныя ячэйкі надта мала займаюцца пытаньнямі абагульваньня сродкаў вытворчасьці, павялічэньня непадзельных капіталаў, узмацненьня калгасаў, агрыкультурнага ўплыву на ваколічнае бядняцка-серадняцкае насельніцтва, ячэйкі слаба кіруюць соц. спаборніцтвам.

б) Аднэй з галоўнейшых прычын слабай працы ячэек зьяўляецца нізкі політычны і культурны ўзровень складу іх. Слаба пастаўлена партвыхаваўчая праца, нездавальняюча прапрацованы ў большасьці ячэек асноўныя рашэньні партыі (пастановы XII-га зьезду КП(б)Б, XVI партканфэрэнцыі і інш.), мала выпісваецца газэт. Таму ў шэрагу ячэек маюць месца хваравітыя зьявішчы (п'янства, склокі, няпрыкладнасьць у працы, скрыўленьне клясавай лініі і г. д.).

в) Нездавальняюча ў саўгасах і калгасах пастаўлена культасьветная і масавая праца. Малая колькасьць і дрэнная пастаноўка працы клюбаў, хат-чытальнь, чырвоных куткоў, радыё-ўстановак і бібліотэк. Зусім не разгорнута работа па арганізацыі лекцый, дакладаў, гутарак як мясцовымі сіламі, так і шляхам пасылкі дакладчыкаў і лектароў з гораду.

г) Усё яшчэ слаба пастаўлена работа сярод жанчын і моладзі. Большасьць комсамольскіх ячэек не разгарнулі яшчэ гаспадарчай і культасьветнай працы. Дэлегацкія сходы працуюць дрэнна, амаль адсутнічаюць спэцыяльныя гурткі па падвышэньні кваліфікацыі жанчын і вывучэньні асобных галін гаспадаркі.

4. Хаця і дасягнута некаторае ўзмацненьне кіраўніцтва і ўвагі з боку кіруючых партыйных органаў да працы ячэек, аднак інструктаваньне і практычная дапамога ім з боку РК і АК КП(б)Б усё яшчэ яўна недастаткова.

Нарада лічыць неабходным:

## А. У галіне кіраўніцтва гаспадарчай працай ячэек.

1. Галоўнейшая задача ячэек—гэта ў сапраўднасьці стаць на чале кіраўніцтва працай і жыцьцём саўгасаў і калгасаў, каб апошнія ў значна большай меры садзейнічалі далейшаму разгортваньню працы па калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Таму асноўны цяжар практычнай працы патрэбна сканцэнтраваць на пытаньнях зьніжэньня сабекошту продукцыі, узьняцьця вытворчасьці працы, падвышэньня ўраджайнасьці і таварнасьці гаспадарак, палепшаньня працы вытворчых нарад на большае абагульваньне сродкаў вытворчасьці, павялічэньня непадзельных капіталаў, палепшаньня ўнутранага распарадку, узбуйненьня калгасаў і ўзьняцьця актыўнасьці і самадзейнасьці шырокіх мас рабочых і калгасьнікаў, накіроўваючы яе (самадзейнасьць) на выкананьне задачы гаспадарчага ўзмацненьня саўгасаў і калгасаў, рашуча разгортваючы самакрытыку, дзеля чаго:

а) застанавіць сыстэматычнае кіраўніцтва працай кіраўнікоў саўгасаў, рабачкомаў і саветаў калгасаў. Арганізаваць фракцыі пры рабачкомах і саветах. пільна сачыць і кіраваць іх працай, заслухоўваючы даклады на бюро і сходах ячэек, абгаварваючы папярэдня прынцыповыя пытаньні, вырашаемыя на паседжаньнях рабачкомаў і саветаў, на бюро і сходах ячэек, рэгулярна ставячы даклады кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў на сходах рабочых і калгасьнікаў;

б) ячэйкі саўгасаў у значна большай меры павінны адказваць за пастаноўку гаспадарчай працы ў саўгасах, у сувязі з чым сыстэматычна цікавіцца становішчам гаспадаркі саўгасу, заслухоўваць даклады па пытаньнях зьніжэньня сабекошту продукцыі, узьняцьця вытворчасьці працы, падвышэньня ўраджайнасьці і таварнасьці, адначасова дабіваючыся таго, каб комуністы і комсамольцы былі прыкладнымі ва ўсёй працы;

в) калгаскія ячэйкі асаблівую ўвагу павінны зьвярнуць на рашучае ўзмацненьне тэмпу абагуленасьці сродкаў вытворчасьці, павялічэньне непадзельных капіталаў за лік адлічэньня ад прыбыткаў калгасаў, на палепшаньне ўнутранага распарадку, дамагаючыся ўстанаўленьня правільнай аплаты і правільнага скарыстаньня працоўнай сілы. Трэба сачыць, каб разьмеры аплаты грунтаваліся на рэальных магчымасьцях гаспадаркі, каб не дапусьціць праяданьня асноўных капіта-

лаў. Ячэйкі павінны ў бліжэйшы час дабіцца, каб аплата за аднолькавую працу жанчын і мужчын была аднолькавая. Для выкананьня гэтых задач неабходна сыстэматычна праводзіць растлумачальную працу сярод калгасьнікаў;

г) у саўгасах і калгасах патрэбна комуністых і комсамольцаў разьмяркоўваць так, каб усе галіны працы, праводзімай у гаспадарцы, былі забясьпечаны партуплывам;

д) ячэйкі павінны стаць ініцыятарамі разгортваньня соц. спаборніцтва паміж саўгасамі і калгасамі. У бліжэйшы час шырока растлумачыць значэньне спаборніцтва сярод рабочых і калгасьнікаў. Трэба сачыць, каб дагаворы заключаліся практычныя і каб яны сваячасова выконваліся; дзеля гэтага неабходна сыстэматычна правяраць выкананьне дагавароў і вынікі заслухоўваць на сходах ячэяк, рабочых і калгасьнікаў;

е) патрэбна ўвесьці ў практыку працы ячэек сыстэматычнае правядзеньне вытворчых нарад па пытаньнях лепшай пастаноўкі працы, выкананьня асобных работ і г. д. Вытворчыя нарады трэба праводзіць ня толькі агульна-саўгаскія і калгаскія, а па асобным галінам гаспадаркі (работа ў полі, уход за жывёлай і г. д.). Саветы калгасаў і кіраўнікі саўгасаў павінны сыстэматычна рабіць справаздачу на агульных сходах і нарадах аб выкананьні пастаноў вытворчых нарад.

## Б. У галіне организацыйнай і партыйна-выхаваўчай працы.

1. Яшчэ да гэтага часу ў рабоце паасобных ячэек і комуністаў калгасаў і саўгасаў зачастую недаацэньваецца клясавая барацьба, важнасьць і значэньне работы сярод беднаты і рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты вёскі, што па існасьці і ёсьць праявы правага ўхілу на практыцы. Таму аднэй з галоўнейшых задач АК, РК і ячэек павінна быць рашучая барацьба з праявамі правага ўхілу і прымірэнчымі адносінамі да яго, як на ідэолёгічным фронце, гэтак і ў практыцы, не паслабляючы барацьбы з „левым" ухілам, адначасова рашуча вядучы барацьбу з нацыянал-дэмократызмам і шовінізмам.

2. Патрэбна рашуча палепшыць партвыхаваўчую працу ў ячэйках. АК павінны забясьпечыць як мага шырэй організацыю партшкол з тым, каб увесь склад комуністых саўгасаў і калгасаў быў ахоплены поўнасьцю партасьветай, максымальна скарыстоўваючы для той-жа мэты завочнае навучаньне (завочны Камвуз, партшкола і г. д.), больш глыбока вывучаючы ў гэтых-жа школах карэньні правага ўхілу і неабходнасьць рашучай барацьбы з ім. Увесьці ў практыку работы РК і АК сыстэматычную і рэгулярную пасылку дакладчыкаў і лектароў з гораду ў больш буйныя ячэйкі і на куставыя сходы па політычным пытаньням. Пашырыць організацыю політгурткоў і гурткоў для вывучэньня бягучай політыкі (вывучэньне 5-гадовага пляну, задачы практыкі вытворчага коопэраваньня і колектывізацыі). Рэгулярна праводзіць агульныя сходы ячэйкі, палепшыўшы папярэднюю падрыхтоўку пытаньняў абвестак дню, сходы ячэек павінны, як правіла, праводзіцца адчыненымі і толькі ў паасобных выключных выпадках зачыненыя сходы. Ячэйкі павінны дабіцца рашучага павялічэньня выпіскі газэт і часопісаў рабочымі саўгасаў і калгасьнікамі.

3. Узмацніць работу па падрыхтоўцы і ўцягненьні ў партыю батрацтва, рабочых саўгасаў і бядняцкага актыву калгасьнікаў, асабліва жанчын, шляхам больш шырокага ўцягненьня ў політшколы і гурткі беспартыйных актывістак, організацыі спэцыяльных школ з батрацтва і рабочых саўгасаў па падняцьцю агульных ведаў і політычнага ўзроўню, даручаючы асобным комуністым весьці работу па выяўленьні лепшых рабочых і калгасьнікаў у гаспадарках, дзе няма партячэек, праводзячы спэцыяльныя выезды сяброў АК і РК у саўгасы і калгасы дзеля азнаямленьня, вывучэньня актывістых і дачы ім паручыцельстваў.

4. Максымальна пашырыць сетку ячэек у саўгасах і калгасах (забясьпечыўшы выкананьне пастановы XII зьезду і верасеньскага пленуму ЦК аб організацыі партячэек ва ўсіх буйных калгасах) выкананьне пастановы XII зьезду КП(б)Б аб пашырэньні сеткі ячэек у саўгасах, дзеля чаго:

а) усіх комуністых калгасьнікаў, рабочых і працаўнікоў саўгасаў, знаходзячыхся ў вясковых ячэйках, перавесьці ў ячэйкі саўгасаў і калгасаў для організацыі там ячэек. Пры немагчымасьці організаваць ячэйку, організоўваць кандыдацкія групы, забясьпечваючы належным кіраўніцтвам працу іх з боку суседніх ячэек і непасрэдна РК;

б) у саўгасах і калгасах, дзе ёсьць асобныя комуністы, але нельга ўтварыць ячэйку ці кандыдацкую групу, вылучаць у такім разе парт. організатараў. Вылучэньне і непасрэднае кіраўніцтва працай парторганізатараў павінна праводзіцца непасрэдна РК і ячэйкай.

Арг. і вясковаму аддзелу распрацаваць палажэньне аб рабоце саўгаскіх і калгаскіх парторганізатараў;

в) пашырыць пры чарговых перавыбарах бюро ячэек выбары бюро ячэек з такім разьлікам, каб ва ўсіх ячэйках, дзе ёсьць 7 і больш сапраўдных сяброў партыі, меліся абраныя бюро.

г) ЦК ЛКСМБ пашырыць сетку комсамольскіх ячэек у саўгасах і калгасах, а таксама і сетку піонэрскіх атрадаў. Адначасова партячэйкі павінны ўзмацніць кіраўніцтва ячэйкамі КСМ і піонэрскімі атрадамі ў саўгасах і калгасах, дапамагаючы ім у штодзённай практычнай рабоце.

5. У мэтах выяўленьня і распаўсюджваньня лепшых мэтадаў работы паасобных калгасаў і для найбольшай популярызацыі практычных дасягненьняў і зьнішчэньня недахопаў калгаснага будаўніцтва, лічыць мэтазгодным правесьці масавы грамадзкі агляд калгаснага будаўніцтва БССР, правёўшы гэты агляд у вясеньні пэрыяд, увязаўшы яго з задачамі вясеньняй пасеўнай кампаніі.

6. Для азнаямленьня з вопытам парт. выхаваўчай гаспадарчай і культмасавай работы ў калгасах і саўгасах лічыць мэтазгодным утварэньне экскурсій сакратороў буйных ячэек калгасаў і саўгасаў у прыкладныя саўгасы і калгасы СССР.

Арг. і вясковаму аддзелу ЦК распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы аб колькасьці экскурсантаў, часе экскурсій і г. д.

7. Лічыць абавязковым, каб сакратар ячэйкі калгасу альбо куста быў членам калгасу. Аргаддзелу ЦК распрацаваць мерапрыемствы па аказаньню некаторай матар'яльнай дапамогі сакратаром буйных калгаскіх і саўгаскіх ячэек, дзе немагчыма забясьпечыць іх за кошт гаспадарак, як удзельнікаў у працы іх.

## В. У галіне працы сярод жанчын, палітасьветнай і масавай.

1. Слабая і нездавальняючая праца сярод жанчын, галоўным чынам у калгасах, надта часта зьяўляецца прычынай распаду калгасаў і розных спрэчак. Таму ячэйкі павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на палепшаньне ўсёй працы сярод жанчын, шляхам: добрай пастаноўкі працы дэлегацкіх сходаў. Ва ўсіх калгасах, дзе ёсьць партячэйкі ці парт. організатары, абавязкова павінны быць організаваны дэлегацкія сходы, забясьпечваючы іх добрымі кіраўнікамі і штодзённым кіраўніцтвам з боку ячэек. Організоўваючы спэцыяльныя гурткі па вывучэньні асобных галін гаспадаркі і працы (птушкаводзтва, нагляданьне за жывёлай, дамаводзтва, разьвядзеньне гародніцтва і г. д.), як мага дамагаючыся пашырэньня такіх галін гаспадаркі, дзе магчыма найбольш поўна скарыстаць працу жанчын.

Неабходна таксама ўсямерна пашыраць і паляпшаць работу бытавых устаноў (дзіцячыя пляцоўкі, яслі, сталоўкі і г. д.).

2. Галоўнейшай задачай культмасавай работы сярод рабочых саўгасаў і калгасьнікаў павінна быць разьвіцьцё соцыялістычна сьвядомых адносін рабочых і калгасьнікаў да вытворчасьці, узмацненьне працдысцыпліны, падвышэньне культурнага ўзроўню і г. д., для чаго:

а) неабходна значна палепшыць пастаноўку працы клюбу, хат-чытальнь і чырвоных куткоў. Увязваючы правядзеньне ўсёй культмасавай работы ў саўгасах і калгасах з інтэрнацыянальным выхаваньнем рабочых і калгасьнікаў. Больш шырока растлумачваючы шкоднасьць антысэмітызму і шовінізму і рашуча праводзячы барацьбу з праявамі яго; ячэйкі павінны сыстэматычна кіраваць працай усіх культасьветных устаноў, падбіраць лепшых кіраўнікоў і ўсю работу прыстасоўваць да таго часу, калі насельніцтва калгасу і саўгасу найбольш вольнае ад работы, у летні час трэба організоўваць чыткі газэт і праводзіць гутаркі ў полі ў час абедзеных перапынкаў, калі насельніцтва застаецца ў полі, а не прыяжджае да дому;

б) трэба шырока організоўваць розныя гурткі пры клюбах, хатах-чытальнях і чырвоных кутках. Асабліва трэба наладжваць працу па азнаямленьню ў зімовы час насельніцтва калгасаў і саўгасаў па вывучэньню складаных с.-г. машын, усямерна ўзьнімаючы кваліфікацыю рабочых і калгасьнікаў;

в) ва ўсіх калгасах і саўгасах, дзе ёсьць партыйныя і комсамольскія ячэйкі і парторганізатары, і дзе маецца ня менш 30 членаў, трэба організаваць выданьне насьценгазэт, організоўваць гурткі карэспандэнтаў, уцягваючы найбольшы лік удзельнікаў у выданьне гэтых газэт. Ячэйкам неабходна ўзмацніць кіраўніцтва насьцен. газэтамі і гурткамі селькораў, шырока разгортваючы праз насьценгазэту самакрытыку;

г) аднэй з галоўнейшых задач палітасьветнай працы зьяўляецца задача шырокага разгортваньня зьнішчэньня няпісьменнасьці. Ва ўсіх саўгасах і калгасах павінны быць організаваны школы і гурткі па зьнішчэньню няпісьменнасьці, неабходна скарыстаць усе маючыяся сілы ў саўгасах і калгасах для найбольш пасьпяховага правядзеньня гэтае працы, а таксама шырока прыцягваць і вясковае настаўніцтва;

д) палепшыць работу бібліотэк, папаўняць іх сыстэматычна літаратурай і часопісамі, там, дзе няма яшчэ сталых бібліотэк, трэба організоўваць бібліотэкі перасоўкі.

Наркамасьветы выдзяліць адпаведны фонд для сыстэматычнага папаўненьня саўгаскіх і калгаскіх бібліотэк.

е) палепшыць работу радыё-установак, больш шырока скарыстоўваючы іх пры правядзеньні масавай работы. Паставіць практычнай задачай, каб ужо ў бягучым годзе ўсе саўгасы і калгасы былі забясьпечаны радыё-устаноўкамі, а таксама пры організацыі акруговых курсаў сакратароў калгаскіх і саўгаскіх ячэек уключыць пытаньне вывучэньня радыё-установак на гэтых курсах.

3. Маючы на ўвазе, што клясавая барацьба адбываецца і ў калгасах, асабліва ў прасьцейшых аб'яднаньнях, ячэйкі павінны пільна сачыць за тым, каб у калгасы не папалі кулацкія элемэнты, там, дзе яны ёсьць, выключыць іх і весьці сталую работу па організацыі батрацтва і беднаты, усямерна змагаючыся з выпадкамі акулачваньня пад выглядам калгасаў (перарастаньне ў лжэ-калгасы).

Патрэбна сыстэматычна праводзіць работу сярод калгасьнікаў аб іх задачах, як удзельнікаў соц. сэктару гаспадаркі, пролетарскай дзяржавы, усямерна дамагаючыся сваячасовага і поўнага выкананьня заданьня па хлебанарыхтоўкам, ставячы практычнай умовай поўную здачу ўсіх таварных лішкаў коопэрацыйным і дзяржаўным установам.

4. Стала наладжваючы ўсю работу ў саўгасах і калгасах, неабходна як мага пашырыць уплыў на ваколічнае бядняцка-серадняцкае насельніцтва, павялічваючы агрыкультурную дапамогу бядняцкім і маламоцным гаспадаркам па лініі вытворчых аб'яднаньняў, адначасова паказваючы на практыцы перавежнасьць буйнай гаспадаркі перад дробна-індывідуальнай, усямерна садзейнічаючы пашырэньню калгаснага будаўніцтва. Разам з тым партыйным ячэйкам гораду і шэфскім організацыям неабходна палепшыць і ўзмац-

ніць работу па абслугоўваньню падшэфных калгасаў і саўгасаў.

5. Ячэйкі павінны значна пашырыць сувязь з ваколічным насельніцтвам і сельскімі саветамі, шляхам шырокага ўдзелу як саміх ячэек, так і шырокіх мас рабочых і калгасьнікаў у працы сельсаветаў, КСУ і коопэрацыі, ставячы даклады калгасаў і саўгасаў на сходах сялян, на пленумах сельсаветаў, КСУ, а таксама актыўна дапамагаючы і садзейнічаючы ў правядзеньні ўсіх гаспадарчых і палітычных кампаній на вёсцы (хлебанарыхтоўкі, пазыка, самаабкладаньне, перавыбары КСУ, сельсаветаў і г. д.).

6. Паставіць пытаньне перад органамі сувязі аб лепшым абслугоўваньні пісьманосцамі саўгасаў і калгасаў, а таксама больш буйныя калгасы і саўгасы зьвязаць тэлефоннай сеткай.

7. Белкоопсаюзу пашырыць сетку кінопрасовак для абслугоўваньня саўгасаў і калгасаў, прыцягваючы для гэтай мэты сродкі Белкоопсаюзу калгасаў і калгассаюзу.

8. Нарада канстатуе, што ў выходзячай літаратурнай продукцыі яшчэ не адбіваецца шпаркае разгортваньне колектывізацыі вёскі, што шмат яшчэ беларускіх пісьменьнікаў знаходзяцца ў баку ад соц. стройкі. Усё гэта патрабуе рашучага пералому з боку беларускіх пісьменьнікаў у справе найбольшага азнаямленьня з калгасным будаўніцтвам і сапраўдным жыцьцём калгасаў, адбіваючы гэтае жыцьцё і шпаркі тэмп росту соцыялістычнага сэктару вёскі ў літаратурных творах.

### Г. У галіне кіраўніцтва і практычнай дапамогі ячэйкам з боку РК, АК і іншых органаў.

1. Аднэй з галоўнейшых задач калгаснага і саўгаснага будаўніцтва зьяўляецца падрыхтоўка адпаведных кадраў як кіраўнікоў, так і сел.-гас. спэцыялістых.

Ячэйкам і РК неабходна больш зьвярнуць увагі высоўваньню гэтых кадраў з батракоў, беднякоў калгасаў і рабочых саўгасаў. АК падрыхтаваць і правесьці курсы ў акруговым маштабе з гэтымі вылучэнцамі. НКЗему, НКАсьветы, Белкалгассаюзу, Белсельтрэсту распрацаваць мерапрыемствы і ўнесьці ў ЦК аб падрыхтоўцы адпаведных кіруючых кадраў і сел-гасп. спэцыялістых.

2. Палепшаньне работы ячэек у калгасах і саўгасах, разгортваньне масавай працы і г. д., патрабуе ад РК і АК КП(б)Б і шэрагу іншых устаноў рашучага ўзмацненьня кіраўніцтва і практычнай дапамогі, у прыватнасьці неабходна:

а) РК і АК КП(б)Б павінны забясьпечыць сыстэматычнае кіраўніцтва і дапамогу ў працы ячэек на мясцох, інструктуючы іх, праводзячы рэгулярныя выезды сяброў РК і АК у ячэйкі на больш доўгі тэрмін, прымацоўваючы да буйных ячэек саўгасаў і калгасаў сябраў АК, абсьледваючы працу ячэек непасрэдна з боку АК і заслухоўваючы даклады іх, увёўшы ў практыку работы скліканьне раённых і акруговых нарад сакратароў саўгаскіх і калгаскіх ячэек паасобку, дапамагаючы і садзейнічаючы ўзьняцьцю актыўнасьці, самадзейнасьці партмасы, разгортваньню самакрытыкі і зьнішчэньню недахопаў, маючыхся ў жыцьці і працы ячэек, вядучы рашучую барацьбу з скрыўленьнямі клясавай лініі і з праявамі правага ўхілу на практыцы;

б) у найбольш кароткі тэрмін патрэбна ажыцьцявіць пастанову пленуму ЦК аб устанаўленьні непасрэднай сувязі гарадзкіх ячэек з саўгаскімі і калгаскімі, організоўваючы апошнім усямерную дапамогу;

в) усе палітасьветныя ўстановы (раён, акруга, цэнтр) у большай меры павінны дапамагчы разгортваньню і палепшаньню культасьветнай і масавай працы ў калгасах і саўгасах, забясьпечваючы кіно-абслугоўваньнем, літаратурай, сыстэматычнай пасылкай лектароў на спэцыяльныя тэмы, організоўваючы консультацыі, інструктаваньне практычных працаўнікоў па пытаньнях культасьветнай работы ў калгасах і саўгасах;

г) цэнтральным і акруговым газэтам неабходна рашуча палепшыць і пашырыць асьвятленьне на старонках газэт практыкі і жыцьця калгаснага і саўгаснага будаўніцтва.

## Аб становішчы і працы Залінейнай парторганізацыі.

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б).*

1. Заслухаўшы даклад Сакратара Залінейнага Райкому КП(б)Б тав. Рака і садаклад інструктара ЦК тав. Танхілевіча,—Бюро ЦК адзначае, што пры наяўнасьці некаторых дасягненьняў у рабоце організацыі (выкананьне вытворчай праграмы, вылучэньне, барацьба з антысэмітызмам, некаторае палепшаньне соцыяльнага складу організацыі) маюцца наступныя асноўныя недахопы:

а) парторганізацыя была нездавальняюча мобілізавана на барацьбу з правай небясьпекай і прымірэнцкіх адносін да яе, зусім нездавальняюча была разгорнута барацьба з скажэньнямі палітычнай лініі партыі ў практычнай працы профсаюзаў, КСМ, коопэрацыі, шэф т-ва, дор. асьветы, у паасобных ячэйках. Нездавальняюча была разгорнута самакрытыка ў організацыі ў шэрагу буйных колектываў і ўстаноў, як-та: галоўныя майстэрні, дор. асьветы, ячэйка асьветы Дэпо—сарціровачнае, Гомельхоз і ў профорганізацыях гэтых устаноў, нават мелі месца факты простага зажыму самакрытыкі. РК своечасова ня выкрыў і ня даў належнага адпору момантам зажыму самакрытыкі і ня склаў умоў для разгортваньня самакрытыкі;

б) шырокія рабочыя масы недастаткова былі мабілізаваны на барацьбу з праявамі расійскага шовінізму і актыўнага супраціўленьня беларусізацыі. Дырэктывы партыі аб беларусізацыі выкананы нездавальняюча.

Парторганізацыя зусім нездавальняюча ўсвоіла небясьпеку нацыянал-дэмократызму і не вяла з ім барацьбы.

в) Парторганізацыя не змагла перабудаваць сваёй працы для мобілізацыі і напраўленьня ўзрастаючай актыўнасьці рабочай масы, у першую чаргу асноўных кадраў парторганізацыі на ажыцьцяўленьне асноўных політычных задач партыі як-та: барацьбы з правым ухілам і яго канкрэтнымі праявамі вакол пытаньня вытворчасьці, разгортваньня соц. спаборніцтва, колектывізацыі сельскае гаспадаркі, самакрытыкі, распаўсюджаньня 3-й пазыкі індустрыялізацыі і выкананьня дырэктыў партыі аб беларусізацыі.

г) У шэрагу выпадкаў РК не даваў рашучага адпору даўленьням варожых клясавых сіл кулацкіх і бюрократычных элемэнтаў, на парторганізацыю і рабочую клясу і ў гэтай барацьбе недастаткова апіраўся на асноўныя кадры рабочай клясы. У сувязі з гэтым у некаторай частцы парторганізацыі прафсаюзаў, камсамолу і коопэрацыі распаўсюджаны зьявішчы хвасьцізму і месьніцтва, што знайшло адбітак у нездавальняючым удзеле ў спаборніцтве, колектывізацыі сельскае гаспадаркі, распаўсюджаньні 3-й пазыкі індустрыялізацыі, выпадках рвацтва і хістаньня часткі актыву ў сувязі з гаспадарчымі цяжкасьцямі.

На падставе гэтага Бюро ЦК лічыць кіраўніцтва Райкому і працу Залінейнай организацыі нездавальняючай.

II. Цэнтральнай задачай Залінейнай организацыі лічыць правядзеньне рашучай ідэолёгічнай барацьбы з правым ухілам і прымірэнцкімі адносінамі да яго, якія зьяўляюцца асноўнай небясьпекай і ўсякімі скажэньнямі партлініі ў практычнай працы, працягваючы рашучую барацьбу і выкрыцьцё контр-рэволюцыйнага трацкізму, трацкісцкіх настрояў, „левых“ загібаў і прымірэнцкіх адносін да іх.

Мобілізаваць усю парторганізацыю для рашучай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, апартунізмам, расійскім шовінізмам і прымірэнчымі адносінамі да іх, улічваючы тое, што яны зьяўляюцца аднэй з форм праяўленьня правага ухілу ў КП(б)Б.

ЦК прапануе энэргічна разгарнуць працу па разгортваньню бальшавіцкай самакрытыкі, ня гледзячы на асобы, выкрываючы опортуністычныя памылкі і скажэньні партлініі ў працы парторганізацыі, профсаюзаў, гаспадарчых органаў, шэфтаварыства і г. д., выхоўваючы ўсю партмасу на барацьбе з канкрэтнымі праявамі правага опортунізму ў практычнай працы. Неабходна організаваць масы на бязьлітасную барацьбу з бюракратычнымі адносінамі да самакрытыкі і зажымам самакрытыкі і бюрократызмам. Організацыя павінна, апіраючыся на перадавыя кадры рабочых, правесьці працу па ўзмацненьню свайго ўплыву і перавыхаваньню адсталых пластоў рабочае масы і мобілізацыі ўсёй рабочай клясы вакол выкананьня генэральнай лініі партыі.

Неабходна організаваць самы энэргічны і рашучы адпор шырокіх партмас, даўленьню кулацка-абывацельскіх і чыноўніцкіх бюрократычных элемэнтаў на парторганізацыю і рабочую клясу, профсаюзы, дзяржапарат, коопэрацыю, праявам хвасьцізму, месьніцтва. Неабходна рашуча весьці барацьбу з выпадкамі, калі члены партыі не зьяўляюцца перадавымі як на вытворчасьці, так і пры выкананьні чарговых політычных задач.

III. Канстатуючы дасягненьні пры выкананьні вытворчай праграмы ў той-жа час адзначыць, што выкананьне шэрагу якасных паказчыкаў (вытворчасьць працы, сабекошт, брак і часткова па эксплёатацыі) лічыць нездавальняючымі. Асноўнымі прычынамі гэтаму зьяўляюцца недастатковая барацьба з адсталымі настроямі ў рабочай масе, нездавальняючая праца па мобілізацыі актыўнасьці творчай ініцыятывы асноўных кадраў пролетарыяту вакол пытаньняў вытворчасьці і рэканструкцыі транспарту і адсутнасьць правільных ізьмярыцеляў. Гэтыя недахопы павінны быць зьнішчаны шляхам:

а) мобілізацыі рабочых вакол абавязковага выкананьня ўсіх вытворчых заданьняў, колькасных і якасных і зьмярыцеляў шляхам усебаковай прапрацоўкі гэтых заданьняў і шырокага прыцягненьня рабочых праз соц. спаборніцтва да актыўнага ўдзелу ў іх выкананьні;

б) самай энэргічнай барацьбы з рвацкімі настроямі, працоўнай расхлябанасьці, настроямі пасыўных адносін, незацікаўленасьці ў пасьпяховым выкананьні зьмярыцеляў, асабліва сярод вясковай часткі рабочых, мобілізуючы для барацьбы з гэтымі зьявішчамі шырокія масы рабочых;

в) організацыі сыстэматычнага кантролю рабочых на выкананьню заданьняў ізьмярыцеляў, праз агульныя вытворчыя сходы, ВКК, рабочыя брыгады;

г) прыняцьця актыўнага ўдзелу ў рэгуляваньні рабочай сілы на прадпрыемстве, не дапушчаючы выпадкаў загрузкі прадпрыемстваў лішняй рабочай сілай і няпоўнай загрузкай працоўнага дня, як рабочымі, так і ніжэйшым адміністрацыйна-тэхнічным пэрсоналам (брыгадыры, манцёры);

д) парторганізацыя павінна забясьпечыць кіраўніцтва ня толькі асобнымі прадпрыемствамі, але ўсёй вытворчай эксплёатацыйнай дзейнасьцю ў Гомельскім вузьле. Пытаньні хлебаперавозак, перавозак лесаматэрыялу і г. д., прабегу сярэдняе вагі складу цягнікоў, колькасьці яго асі павінны быць у цэнтры ўвагі ўсёй організацыі. Організацыя павінна дабіцца сыстэматычнага азнаямленьня з усімі паказчыкамі ўсёй рабочай масы, і актыўнага ўдзелу яе ў іх выкананьні;

е) трэба дабіцца поўнай загрузкі прадпрыемстваў заказамі і ўстанаўленьня правільных ізьмярыцеляў у працы НКПС;

ж) абавязаць парт., проф. і гаспадарчыя организацыі пытаньням разгортваньня соц. спаборніцтва і ўцягненьня ў яго шырокіх рабочых мас, зьвярнуць максымальную ўвагу. Неабходна зьнішчыць элемэнты недаацэнкі соц. спаборніцтва, забясьпечыўшы сыстэматычнае

кіраўніцтва соц. спаборніцтвам. Праявіць больш ініцыятывы ў скарыстаньні канкрэтных форм соц. спаборніцтва, забясьпечыць сыстэматычную яго праверку, выкананьня палітгаспадарчых умоў. Уся рабочая маса павінна быць поўнасьцю ў курсе праходжаньня соц. спаборніцтва, ведаць дасягненьні, недахопы і зрывы ў гэтай рабоце. Неабходна рашуча рэагаваць на ўсе перашкоды разгортваньню соц. спаборніцтва і дабіцца правядзеньня ў жыцьцё заахвочваньняў усіх тых, хто паказаў большыя дасягненьні ў вытворчасьці. Праца ВК і ВН павінна быць замацована, неабходна наладзіць сыстэматычны кантроль над правядзеньнем у жыцьцё іх рашэньняў. Уся праца па мобілізацыі мас вакол пытаньня вытворчасьці павінна дапаўняцца клапотамі па падняцьцю рэальнага ўзроўню зарплаты, палепшаньня жыльлёва-бытавых умоў рабочых і ўсебаковага абслугоўваньня іх матэрыяльна-бытавых і культурных запатрабаваньняў.

IV. Мобілізацыя рабочых мас вакол выкананьня генэральнай лініі партыі патрабуе рашучай перабудовы ўсёй масавай працы і аздараўленьня працы масавых організацый у прадпрыемствах і цэхах, кіравацца наступнымі задачамі:

а) зьместам масавай працы павінны зьявіцца асноўныя політычныя і гаспадарчыя задачы, вучот у масавай працы пытаньняў, якімі цікавяцца рабочыя масы і сапраўдны ахоп масавай працай усіх рабочых;

б) прыстасаваньне зьместу, форм і мэтадаў масавай працы да абслугоўваньня розных груп рабочых, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на тых рабочых, якія жывуць на вёсцы і тых, якія па характару сваёй працы бываюць у разьездах, працуюць у розных зьменах і пераходзяць на бесьперапынны працоўны тыдзень. У мэтах аздараўленьня працы масавых організацый на прадпрыемствах і ў цэхах (фабзаўмясцкомаў, цэхпрофбюро, цэхкамісій, агульных і дэлегацкіх сходаў, вытворчых сходаў, дабраахвотных т-в) неабходна:

а) забясьпечыць правядзеньне імі чоткай клясавай лініі і організацыя рашучага адпору хвасьціцкіх настрояў, парушэньнем працоўнай дысцыпліны, праяўленьням рвацкіх настрояў і пасыўным адносінам да ўдзелу ў політычным жыцьці і ў рабоце па палепшаньню вытворчасьці;

б) перабудаваць работу масавых організацый у такім напрамку, каб дабіцца сапраўднага ўдзелу ў іх шырокіх рабочых мас, дзеля чаго рашуча палепшыць якасьць працы гэтых організацый і забясьпечыць фактычны ўдзел рабочых у практычнай працы і кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі;

в) высунуць новы кадр перадавых рабочых для кіраўніцтва і для працы ў тэтых масавых організацыях.

V. Адзначаючы, што ў галіне выкананьня генэральнай лініі партыі па садзейнічаньню соц. рэканструкцыі сельскае гаспадаркі праводзілася неправідловая лінія і організацыя была мобілізавана для гэтай работы, ЦК прапануе кіравацца ў гэтай галіне наступнымі асноўнымі палажэньнямі: асноўную ўвагу і сілы і большую частку сродкаў сканцэнтраваць на садзейнічаньні соц рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, шляхам дапамогі ў організацыі калгасаў і замацоўваньні існуючых калгасаў і саўгасаў і разгортваньні вытворчага коопэраваньня. Неабходна дабіцца пераламу ў адносінах да соц. форм сельскае гаспадаркі ў рабочых Залінейнага раёну, якія жывуць на вёсцы. Залінейная організацыя павінна дабіцца таго, каб рабочыя, працягваючы працу на прадпрыемствах, у той самы час удзельнічалі ў калгасах, у першую чаргу, і ў калгасы павінны перайсьці камуністыя, яны павінны стаць на чале руху за пераход індывідуальных гаспадарак да калектыўных.

Побач з гэтым ва ўсёй выхаваўчай і растлумачальнай працы неабходна з асобай сілай падкрэсьліць тое абвастрэньне клясавай барацьбы, якое мы маем на даным этапе ў горадзе і ў вёсцы. Трэба дабіцца, каб рабочы прымаў актыўны ўдзел у організацыі і згуртаваньні беднаты і садзейнічаў-бы ў яе барацьбе ў саюзе з серадняком супроць кулацтва. Рабочыя Залінейнага раёну павінны быць у першых шэрагах і актыўна садзейнічаць сваячасоваму спагнаньню сельгасп. падатку, правядзеньню самаабкладаньня, выяўленьню аб'ектаў абкладаньня кулакоў, правядзеньню контрактацыі, здачы хлеба ў час хлебанарыхтовак і г. д. Камуністыя павінны заваяваць сабе кіруючую ролю ў гэтай працы сваім асабістым прыкладам, даручыць Райкому тэрмінова прыступіць да адбору, падрыхтоўкі і пасылкі рабочых на вёску для садзейнічаньня ў правядзеньні калектывізацыі і кіраўніцтва існуючымі калгасамі.

VI. Лічыць тэмп беларусізацыі ў Залінейным раёне нездавальняючым. Барацьба з праявамі расійскага шовінізму і пасыўнага супраціўленьня беларусізацыі вялася недастаткова. РК зараз-жа прыняць усе неабходныя меры для забясьпечаньня такога тэмпу беларусізацыі, які-б на працягу паўгода даў магчымасьць перавесьці на беларускую мову работу ўсіх організацый і ўстаноў, якія абслугоўваюць рабочыя масы. Адміністрацыйны апарат чыгункі павінен усю перапіску ўнутранага характару перавесьці ў трохмесячны тэрмін на белмову. Уся барацьба з праявамі расійскага шовінізму і пасыўнага супраціўленьня беларусізацыі павінна праводзіцца больш энэргічна, неабходна гэтыя пытаньні падымаць на прынцыповую вышыню, мабілізуючы шырокія рабочыя масы вакол пытаньняў нацполітыкі КПБ і супроць усіх тых, хто зрывае і тармозіць працэс беларусізацыі ў Залінейным раёне.

VII. Адзначаючы, што ў галіне культурнага будаўніцтва маюцца сур'ёзныя політычныя прарывы, прапанаваць РК пасіліць сваё кіраўніцтва культурным будаўніцтвам, у прыватнасьці:

а) сыстэматычна весьці барацьбу з скрыўленьнем клясавае лініі ў органах дарасьветы, організуючы актыўны ўдзел рабочых у

рабоце па палепшаньню народнай асьветы, і кантроль шырокіх рабочых мас над працай школ, тэхнікумаў. Забясьпечыць сыстэматычную падтрымку ў барацьбе асноўнай масы настаўніцтва супроць скажэньня клясавай лініі ў школах, тэхнікумах, асабліва з боку часткі рэакцыйна настроенага настаўніцтва. Даручыць НКАсьветы распрацаваць пытаньне аб поўнай беларусізацыі чыгуначнага тэхнікума;

б) зьмест масавай палітыка-выхаваўчай працы павінен быць рашуча палепшаны. Пытаньні барацьбы за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі павінны зьяўляцца асноўным зьместам масавай палітычна-выхаваўчай працы. Павялічыць і палепшыць практыку чытак, арганізаваць спэцыяльныя добра падрыхтаваныя даклады і мітынгі па асноўным чарговым пытаньням, узмацніць насьценгазэты і працу з рабкорамі, пасіліць распаўсюджаньне масавай політ-літаратуры, шырэй разгарнуць працу па падняцьцю ўзроўню тэхнічных ведаў і зьнішчэньне няпісьменнасьці, шырока практыкаваць цэхавыя і агульныя палітыка-асьветныя вечары, такія-ж вечары арганізаваць для рабочых, пражываючых у вёсках, забясьпечыць актыўны удзел рабочых у арганізацыі і кіраўніцтве палітыка-асьветнай і культурна-масавай працы.

VIII. Адзначаючы недастатковую ўвагу да партвучобы—ідэйнаму ўзброеньню арганізацыі ў цэлым і асабліва партактыву, Бюро ЦК прапануе:

а) пасіліць растлумачэньне неабходнасьці кожнаму партыйцу павышаць свой ідэёвы ўзровень;

б) дабіцца поўнага ахопу ўсіх камуністых партвучобай, арганізуючы спэцыяльныя курсы для падрыхтоўкі парт. і проф. актыву, адначасова прыцягваючы яго да занятках у агульную сетку партасьветы;

в) для тых, якія жывуць на вёсцы, арганізаваць вучобу па месцу жыхарства, скарыстоўваючы індывідуальныя заданьні і завочнае навучаньне. Для разьяздных і зьменных рабочых арганізаваць бесьперапынныя працуючыя школы-конфэрэнцыі з індывідуальнымі і групавымі заданьнямі і кансультацыямі;

г) пасіліць забясьпечаньне камуністых парт. літаратурай і распаўсюджаньне газэты „Зьвязда" і „Праўда". АК узмацніць раён прапагандысцкімі сіламі.

IX. Адзначаючы некаторае палепшаньне сац. складу арганізацыі за лік рабочых ад варштату, лічыць, што тэмп вярбоўкі зьяўляецца недастатковым. Прапанаваць Залінейнай арганізацыі, кіруючыся дырэктывамі ЦК УсеКП(б), XVI партконфэрэнцыі, XII зьезду КП(б)Б, узмацніць работу па вярбоўцы рабочых у партыю, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў партыю старых рабочых і на якасны адбор прымаемых. Праца з беспартыйным актывам павінна весьціся сыстэматычна, яна павінна быць рашуча палепшана. Пасіліць растлумачальную працу аб чыстцы партыі, уцягваючы ўсіх рабочых у абгаварэньне і правядзеньне мерапрыемстваў па забясьпечаньню іх актыўнага ўдзелу ў чыстцы. Лічыць неабходным прыцягнуць да праверкі камуністых, якія жывуць у вёсках, беднату і наогул вясковы актыў.

X. Адзначаючы посьпехі ў справе вылучэньня рабочых, Бюро ЦК прапануе ўзмацніць вылучэньне рабочых на адказную кіруючую працу, павялічыць вылучэньне беспартыйных, асабліва на ніжэйшую адміністрацыйна-тэхнічную працу. Вылучэньне павінна абгаварвацца і зацьвярджацца на агульных сходах рабочых. РК вылучыць на працягу 6 месяцаў 50 рабочых з іх 10 беспартыйных, 5 работніц—на адказную кіруючую працу.

XI. У сувязі з наліччам у працы ДТПО шэрагу скажэньняў палітычнай лініі партыі права-опортуністычнага характару і недахопаў у рабочым снабжэньні, зараз-жа замацаваць ДТПО вытрыманымі працаўнікамі і прыступіць да падрыхтоўкі правядзеньня перавыбараў ДТПО. Прапанаваць ДТПО перабудаваць сваю працу, узяўшы курс на рабочае снабжэньне і ў сваёй працы ўлічваць неабходнасьць асабліва ўважлівых адносін да абслугоўваньня той часткі рабочых, якія ня маюць сваёй гаспадаркі. Перайсьці на снабжэньне рабочых печаным хлебам, гароднінай, разгарнуць грамадскае харчаваньне, снабжэньне гарачымі сьнеданьнямі, зьнішчыць чаргі ў крамах. ДТПО дабіцца пасіленьня сталай сувязі з рабочымі, прыцягваючы іх да актыўнага ўдзелу ў штодзеннай працы ДТПО.

XII. У сувязі з тым, што ў працы мінулага кіруючага складу Учкпрофсожа выяўлены цэлы шэраг опортуністычных памылак і скажэньняў палітычнай лініі партыі, бюрократычнае закасьцяненьне апарату, а таксама ўлічваючы тое, што Учкпрофсож не змог перабудаваць сваёй працы, не разгарнуў самакрытыкі і ня вёў барацьбы з зажымам самакрытыкі, дрэнна кіраваў соц. спаборніцтвам і слаба займаўся абаронай матар'яльна-бытавых інтарэсаў рабочых, лічыць працу Учкпрофсожа зусім нездавальняючай. Лічыць неабходным зрабіць перавыбары Учкпрофсожу, зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі зьезду, павёўшы шырокую растлумачальную работу сярод рабочай масы.

XIII. У сувязі з тым, што Бюро Райкома КСМ не змагло забясьпечыць мобілізацыі асноўных кадраў комсамолу і рабочай моладзі навакол асноўных палітычных задач партыі і комсамолу, як барацьба з правым ухілам і прымірэнцтвам да яго, нацыянал-дэмократызмам, вялікадзяржаўным шовінізмам, вакол пытаньня вытворчасьці, соц. спаборніцтва, колектывізацыі сельскае гаспадаркі, самакрытыкі, беларусізацыі і ў сувязі з тым, што раённае кіраўніцтва КСМ адарвана ад мас комсамольцаў і рабочае моладзі, прызнаць работу Бюро РК КСМ нездавальняючай. Прапанаваць РК партыі арганізаваць прапрацоўку ўсіх недахопаў комсамольскай працы і становішча Залінейнай комсамольскай організацыі сярод комсамольцаў і рабочай моладзі, паставіўшы ўсе пытаньні комсамольскай працы на ўнечарговым пленуме КСМ, узмацніць кіраўніцтва комсамолу новымі працаўнікамі.

XIV. Прапанаваць Гомельскаму АК КП(б)Б значна пасіліць штодзеннае кіраўніцтва і дапамогу Залінейнай арганізацыяй. АК абгаварыць пытаньне аб мэтазгоднасьці рэарганізацыі Залінейнай парторганізацыі ў напрамку перабудовы яе для абслугоўваньня ня толькі чыгуначнікаў, што было да гэтага часу, але і ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў Залінейнага раёну, у прыватнасьці новага заводу с.-г. машын, млыну і г. д.

## Аб росьце і рэгуляваньні соцыяльнага складу парторганізацыі.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б па дакладу Бабруйскага Гаркому КП(б)Б ад 25-ХІ-29 г.).*

Заслухаўшы даклад тав. Сытова аб рабоце Бабруйскага Гаркому КП(б)Б у галіне вярбоўкі і рэгуляваньня соцыяльнага складу раённай арганізацыі, Сакратарыят ЦК канстатуе:

1. Узмацненьне ўвагі з боку Гаркому і ячэек да пытаньняў росту і рэгуляваньня соцыяльняга складу арганізацыі, у выніку чаго павялічыўся прыток рабочых у партыю (за гэты год прынята ў партыю 168 чал., што складае 12,9% агульнай колькасьці ўсёй парторганізацыі і павялічвае арганізацыю з 1157 чал. да 1304 чал. на 1/Х-29 г.).

2. Палепшаньне якасьці прымаемых у партыю (у агульным ліку прынятых—рабочыя ад варштату складаюць 93%, а за апошняе паўгодзьдзе 94,2%). З ліку прынятых рабочых 39% маюць вытворчы стаж звыш 5 гадоў, 88,6% актыўна ўдзельнічаюць у грамадзкай працы на прадпрыемствах і ў іншых арганізацыях—Гарсавет, ФЗМК і г. д.).

3. Павялічэньне прыёму ў партыю комсамольскага рабочага актыву (45,3% да агульнага ліку прынятых за год зьяўляліся комсамольцамі), а таксама некаторае павялічэньне колькаснага росту за лік жанчын.

4. Палепшаньне якаснага складу арганізацыі ў выніку росту і адпаведнага яго рэгуляваньня (рабочыя склалі на 1/Х-28 г.—70%, а на 1/Х-29 г.—72,2%. Рабочыя ад варштату на 1/Х-28 г. 49,7%. на 1/Х-29 г. 59%).

Адначасова ЦК адзначае, што:

а) Ня гледзячы на маючуюся і павялічваючуюся базу росту тэмп вярбоўкі ў партыю за апошні год наогул зьяўляецца недастатковым і асабліва за кошт работніц.

б) некаторыя ячэйкі пытаньні росту ня ставілі на бюро і сходах ячэек (махорачная фабрыка, банна-прачашны атрад, воднікі, Адзерыхо), а таксама шэраг ячэек пытаньне аб вярбоўцы рабочых у партыю ня ставілі на абгаварэньне рабочых сходаў.

в) Слаба пастаўлена праца цэхоргаў і групоргаў па вярбоўцы рабочых у партыю і недастаткова ўцягнуты ўвесь партыйны актыў у гэтую работу.

д) Слаба асьвятляюцца пытаньні росту і вярбоўкі ў насьценных газэтах.

д) Недастаткова праводзіцца выхаваўчая праца сярод уноў прынятых у партыю і несваячасова падрыхтоўваюцца кандыдаты да пераводу ў сябры КП(б)Б.

На падставе вышэйадзначанага, Сакратарыят ЦК прапануе гарадзкой арганізацыі значна больш узмацніць тэмп вярбоўкі ў партыю лепшых і перадавых рабочых, прыкладных у вытворчасьці, актыўных удзельнікаў соцыялістычнага спаборніцтва, рашуча змагаючыхся з адсталымі настроямі і складаючых асноўныя кадры рабочых па прадпрыемствах.

Для пасьпяховага выкананьня гэтай задачы арганізацыя павінна: рашуча змагацца з наглядаючыміся трацкісцкімі настроямі сярод асобных рабочых (Бобршвэй, шчацінщчыкі), выкрываючы перад шырокімі масамі членаў партыі і беспартыйных рабочых шкоднасьць права-опортуністычных тэорый і практыкі, контр-рэволюцыйную сутнасьць трацкізму: весьці барацьбу з адсталымі настроямі і пранікнавеньнем дробна-буржуазнага ўплыву на менш устойлівых рабочых; рашуча разгарнуць выхаваўчую работу сярод новых рабочых, прыходзячых у прамысловасьць у сувязі з яе пашырэньнем; змагацца з настроямі, выяўляючыміся ў тым, што ў некаторых ячэйках сябры партыі лічаць „базу росту вычарпанай“, альбо—„за наступны квартал можна вырасьці на 1—2 чалавек“. Папаўненьне рабочага складу за лік новых рабочых вымагае ад парторганізацый неабходнасьць значнага павялічэньня % партыйцаў па больш буйных прадпрыемствах, штодзённай работы па вярбоўцы ў партыю асноўных кадраў кваліфікаваных рабочых.

Сакратарыят ЦК прапануе Гаркому КП(б)Б:

1. Вярбоўку рабочых у шэрагі партыі паставіць аднэй з важнейшых задач у працы ўсёй гарадзкой організацыі. Організацыя павінна скарыстаць частку вытворчых ячэек для ўцягненьня сапраўды перадавых рабочых і работніц у шэрагі партыі.

2. Шырэй разгарнуць масавую працу на прадпрыемствах і ў асобных цэхах, палепшыўшы яе якасьць. Узмацніць працу цэхоргаў, групоргаў і груп-агітатараў, якія павінны ў цэнтры сваёй работы паставіць выкананьне дырэктыў партыі па вярбоўцы рабочых. Рэгулярна заслухоўваць іх даклады на бюро і агульных сходах ячэек, даючы канкрэтныя паказаньні адносна далейшай дзейнасьці ў галіне вярбоўкі рабочых у партыю.

3. Перад кожным комуністым, працуючым у вытворчасьці, паставіць задачу весьці штодзённую апрацоўку рабочых для падрыхтоўкі іх да паступленьня ў партыю, а таксама скарыстаць у мэтах узмацненьня вярбоўкі рабочых усіх адказных працаўнікоў, знаходзячыхся ў рабочых ячэйках.

4. Разгарнуць працу з беспартыйным актывам, прыцягваць яго на адчыненыя парт-

сходы, уцягваць у практычную працу грамадзкіх організацый і дабраахвотных таварыстваў, а таксама і ў розныя (непартыйныя) камісіі па агляду асобных галін працы на прадпрыемстве. У практыцы работы павялічыць скліканьне адчыненых сходаў ячэек.

5. Пашырыць уцягненьне беспартыйнага рабочага актыву ў гурткі і школы партыйнай і політычнай асьветы.

6. Прыняць меры да павышэньня політычнага і культурнага ўзроўню і ўцягненьня ў грамадзкую працу на прадпрыемствах новых кадраў рабочых, растлумачваючы ім генэральную лінію партыі і чарговыя задачы савецкае ўлады. Асьвятляць пытаньні вярбоўкі ў партыю ў заводзкіх шматтыражных і насьцен. газэтах, зьвярнуўшы ўвагу на зьмяшчэньне ў іх вопыту работы групоргаў і цэхорганізатараў у галіне ўцягненьня ў партыю лепшай, перадавой часткі рабочых

7. Прыняць меры к большаму ўцягненьню прымаемых у партыю ў актыўную працу грамадзкіх організацый і культмасавую працу на вытворчасьці, уважліва дапамагаючы ім у працы і не перагружаючы іх.

8. Пэрыядычна правяраць выкананьне партячэйкамі дырэктыў па вярбоўцы рабочых, а таксама пастаноўку і якасьць масавай працы на прадпрыемствах, якую трэба прыстасаваць да ўмоў зьменнасьці, канкрэтна паказваючы ячэйкам неабходнасьць узмацненьня росту і палепшаньня якасьці культурна-масавай працы.

Сакратарыят ЦК прапануе Гаркому прапрацаваць даную пастанову ЦК сярод шырокіх колаў партыйцаў і беспартыйных рабочых на адчыненых сходах ячэек.

## Аб рабоце партколектыву завода „Бальшавік“.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 11-X-29 г.).*

Заслухаўшы даклад т. Штэймана аб выніках росту партколектыву завода „Бальшавік“ за 1929 г., Сакратарыят ЦК канстатуе наступнае:

1. Ня гледзячы на тое, што ў галіне росту партколектыву ёсьць за апошні час некаторыя дасягненьні, аднак тэмп росту зьяўляецца недастатковым, таму што адсутнічае сыстэматычная і плянавая праца па вярбоўцы ў партыю, рост носіць кампанейскі характар (з І-І па І-VІ колектыў вырас на 3 чал., а з І-VІ па І-ІХ на 39 чал.), асабліва слаба ён праходзіў па асобным цэхам (хромавы і мэханічны).

2. Сакратарыят лічыць зусім недастатковым рост за кошт жанчыны і комсамольскага актыву, што тлумачыцца дрэнным становішчам комсамольскае ячэйкі і недастатковым кіраўніцтвам ёю з боку партколектыву.

3. Партколектыў і цэхпартячэйкі не разгарнулі работы з беспартыйным актывам, старымі кадрамі рабочых, не палепшылі мэтадаў правядзеньня і зьместу масавай выхаваўчай працы.

ЦК адначасова адзначае, што работа па штодзённай вярбоўцы ў партыю не стаяла ў цэнтры ўвагі партыйнага актыву і фракцыі непартыйных органаў.

4. З боку асобных комуністых наглядаюцца недапушчальныя настроі „расьці няма за кошт каго, усе лепшыя рабочыя ўжо ўцягнуты ў партыю“. З гэтымі настроямі партколектыў павінен рашуча змагацца.

У далейшым ЦК прапануе:

1. Партколектыву ўжыць мерапрыемствы па значнаму ўзмацненьню тэмпу вярбоўкі ў партыю лепшай і перадавой часткі рабочых, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якасны адбор прымаемых, дзеля чаго:

а) Паставіць задачу перад кожным комуністым, працуючым на вытворчасьці, весьці штодзённую апрацоўку беспартыйных рабочых па ўцягненьні іх у партыю.

б) у кожным цэху організаваць гурткі па падрыхтоўцы ў партыю, на якіх абгаварваць галоўныя пытаньні політыкі партыі, а таксама пытаньні гаспадарчага жыцьця прадпрыемства.

в) Фракцыя выбарных органаў, асабліва фабзаўкомаў, прыняць рашучыя меры па разгортваньні працы па падрыхтоўцы да ўступленьня ў партыю лепшых рабочых актывістых, працуючых у гэтых органах.

г) У цэхах сыстэматычна праводзіць гутаркі з старымі кадрамі рабочых, прыкладнымі ў вытворчасьці, актыўнымі ўдзельнікамі соцыялістычнага спаборніцтва (аб росьце партыі, аб больш важных агульна-палітычных мерапрыемствах партыі і ўлады, аб мерапрыемствах па палепшаньні гаспадарчага становішча прадпрыемства і інш.).

д) Шырока разгарнуць працу з беспартыйным актывам, прыцягваць яго на адчыненыя партсходы, уцягваць у практычную працу грамадзкіх організацый і дабраахвотных таварыстб, а таксама і ў розныя (непартыйныя) камісіі па абгляду асобных галін працы на прадпрыемстве.

е) Асьвятляць пытаньні вярбоўкі ў партыю ў заводзкай шматтыражнай газэце, зьвярнуўшы ўвагу на зьмяшчэньне ў ёй вопыту работы групоргаў і цэхавых ячэек у галіне ўцягненьня ў партыю лепшай перадавой часткі рабочых.

2. Сакратарыят ЦК адзначае недастатковы рост за лік рабочых беларусоў і даручае партколектыву працягваць работу па вярбоўцы ў партыю лепшай часткі рабочых, адначасова зьвярнуўшы сур'ёзную ўвагу на значнае ўзмацненьне работы па ўцягненьні ў партыю рабочых беларусоў.

3. Сыстэматычна (пакварт альна) склікаць партактыў, абгаварваць пытаньні вынікаў росту, зьмест масавай выхаваўчай работы з беспартыйным актывам, тэмп росту за лік комсамольцаў і жанчын работніц і інш.

4. Перад парт. ядром комсамолу паставіць задачу палепшаньня ўнутрывыхаваўчай работы ў комсамольскім колектыве ў мэтах уцягненьня лепшых перадавых рабочых комсамольцаў у шэрагі партыі Пры гэтым партколектыў значна палепшыць партыйнае кіраўніцтва комсамолам.

5. Ужыць меры па палепшаньні працы сярод работніц як у галіне ўцягненьня іх у актыўную работу грамадзкіх арганізацый на прадпрыемстве, так і палепшаньня зьместу работы дэлегацкага сходу.

6. Абгаварыць вынікі росту за 1929 г. на адчыненых цэхавых сходах ячэек, завастрыўшы ўвагу на недастатковы рост і на шкоднасьць думкі, што „няма за кошт каго расьці". Склікаць сыстэматычныя нарады групоргаў па пытаньнях росту, заслухоўваючы даклады асобных групоргаў аб выніках іх работы па ўцягненьні беспартыйных рабочых у шэрагі партыі, а таксама і распаўсюджваючы прыкладны вопыт іх працы па ўсіх цэхах.

## Аб становішчы працы па коопэраваньню бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 30-IX-29 г.).*

Заслухаўшы даклад фракцыі Белкоопсаюзу аб коопэраваньні батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што:

1. Узяты напрамак у працы спажывецкай коопэрацыі па коопэраваньню асобных соцыяльных груп вёскі правільны, тэмп-жа коопэраваньня бядняцка - серадняцкіх мас вёскі, ня глядзячы на выпаўненьне гадавой кантрольнай лічбы коопэраваньня 50 тыс. бядняцкіх гаспадарак, прызнаць недастатковым (% коопэраваных гаспадарак на I-VII—29 г. складае 1,8 проц.,—бядняцкіх і 68 проц. серадняцкіх).

2. Наяўнасьць шэрагу выпадкаў парушэньня клясавае лініі ў справе коопэраваньня беднаты і батрацтва, скарыстаньне значнае часткі фонду на коопэраваньне сераднякоў і некаторай часткі заможных, былых паліцэйскіх і г. д. (Замасточча, Радашковічы, Пухавічы, Койданава С-Т-вамі). Недаацэнка важнасьці найбольш хуткага каапэраваньня аграмаджанага сэктару с.-гаспадаркі (калгасьнікаў). Нескарыстаньне значнай часткі фонду СБ, слабы абхоп беднаты і батрацтва ў населеных пунктах, якія больш адлеглы ад цэнтру коопэратыва, так і жанчын батрачак, якія вядуць самастойныя гаспадаркі і недастатковы ўдзел у рабоце па коопэраваньню за лік фондаў сямей беднаты.

3. Ня было дастатковага нагляду, праверкі і кіраўніцтва з боку паасобных мясцовых парторганізацый за працай спажывецкай коопэрацыі ў галіне коопэраваньня беднатыбатрацтва і аграмаджанага сэктару сель.гаспадаркі.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК прапануе фракцыі праўленьня БКС:

1. Узмацніць тэмп коопэраваньня калгасьнікаў (членаў камун, арцеляй і таварыстваў) з такім разьлікам, каб у бліжэйшыя тры месяцы забясьпечыць 100 проц. коопэраваньня іх.

2. Лічыць неабходным удзел спажывецкай коопэрацыі ў стварэньні спэцыяльных фондаў па колектывізацыі беднаты, дзеля чаго пачаць ужо з бягучага году адлічэньні ад агульных фондаў коопэраваньня 30 проц. у фонд колектывізацыі.

3. Забясьпечыць больш шпаркі тэмп коопэраваньня беднаты, батрацтва, таксама жанчын-батрачак і серадняцкіх груп сялянтва з тым, каб да I-X-30 г. дасягнуць 100% коопэраваньня беднаты і 90% серадняцтва. Разам з тым узмацніць коопэраваньне другіх сяброў двара з асноўных груп насельніцтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на узмацненьне работы па коопэраваньню беднаты нацыянальных меншасьцяў.

4. Шырэй разгарнуць працу па ўцягненьні беднаты і батрацтва ў практычную коопэрацыйную працу наогул і ў прыватнасьці да працы па коопэраваньні, гаспадарчаму абслугоўваньню беднаты, батрацтва і аграмаджанага сэктару с.-гаспадаркі.

5. Фракцыі БКС узмацніць нагляд і жывое кіраўніцтва працай нізавой сеткі спажыв.коопэрацыі, дакладна праверыўшы і забясьпечыўшы правядзеньне вытрыманае клясавае лініі ў справе скарыстаньня фонду КП. Усю работу па коопэраваньню ставіць пад большы кантроль груп беднаты і клясава-вытрыманага батрацка-бядняцкага актыву, усклаўшы поўную адказнасьць на кіраўнікоў С.-Т-ваў за правядзеньне чоткае клясавае лініі і на сваячасовае скарыстаньне фондаў коопэраваньня беднаты.

6. Пры разгортваньні і пераглядзе крамнагандлёвай сеткі ў першую чаргу прадугледзець максымальнае яе набліжэньне да калгасаў, саўгасаў, а таксама тых раёнаў, якія да гэтага часу недастаткова ахоплены.

7. У мэтах лепшага рэгуляваньня і скарыстаньня фонду коопэраваньня беднаты дапускаць перадачу частак фондаў у межах акруг з тых раёнаў, дзе коопэравана 100% беднаты ў другія эканамічна слабейшыя раёны, дзе бедната недастаткова ахоплена.

8. Прапанаваць АК узмацніць нагляд і праверку працы С.-Т-ваў па коопэраваньню, абслугоўваньню членаў камун, калгасаў, батракоў і беднаты па лініі с. коопэрацыі, завастрыўшы пытаньне аб поўным выпрамленьні клясавае лініі ў практычнай працы с.-коопэрацыі.

Фракцыі БКС праз 6 месяцаў далажыць Сакратарыяту ЦК аб выкананьні гэтае дырэктывы.

## Аб барацьбе судова-сьледчых органаў з антысэмітызмам.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 11-XI-29 г.).*

Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты выклікае шалёнае супраціўленьне клясава - варожых сіл, якія выступаюць супроць палітыкі партыі, супроць пасьпяховай соцыялістычнай рэканструкцыі з агіднай зброяй антысэмітызму.

Гэтай агіднай зброяй контр-рэволюцыі кулак і нэпман карыстаюцца ў мэтах пасеяць рознь сярод працоўных і гэтым аслабіць адзіны пралётарскі фронт, аслабіць саюз пролетарыяту з асноўнымі масамі сялянства.

Канстатуючы, што большасьць асоб, прыцягнутых у якасьці абвінавачаных складаюцх дэклясаваныя элемэнты і частка працоўных з груп найбольш адсталых у культурных адносінах (будаўнікі, цагельнікі, гутнікі), Сакратарыят ЦК КП(б)Б адзначае, што сьледчыя органы да гэтага часу недастаткова выявілі конкрэтных натхніцеляў антысэмітызму з кулацка-нэпманскага асяродзьдзя.

Праявы антысэмітызму, якія праходзілі праз судовыя органы, выяўлялі як правіла зусім нездавальняючую работу партыйных, профэсыянальных і грамадзкіх організацый па інтэрнацыянальнаму выхаваньню працоўных.

Некаторыя грамадзкія, профэсыянальныя партыйныя організацыі выявілі прымірэнцкія адносіны да выпадкаў антысэмітызму, ня ўлічвалі іх палітычнага контр-рэволюцыйнага значэньня, часта кваліфікуючы антысэмітызм, як звычайныя бытавыя дробязі, у сувязі з гэтым не вялі з імі штодзённай барацьбы і прымалі супроць іх меры толькі тады, калі яны ўжо перарасталі ў ганебныя, контр-рэволюцыйныя дзеяньні.

Адзначыць, што барацьба судова-сьледчых органаў з нацыянальнай варожасьцю і розьню, амаль выключна ішла па лініі барацьбы з антысэмітызмам і не закранула адкрытых выступленьняў контр-рэволюцыйнага зьместу вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, набыўшага ваяўнічы характар беларускага нацыянал-дэмократызму, шовінізму яўрэйскага і польскага.

Канстантаваць, што дагэтуль яшчэ вельмі слаба пастаўлена работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню школьнай моладзі; НКАсьветы не распрацаваны канкрэтныя шляхі і мэтоды гэтай работы, інтэрнацыянальнае выхаваньне, як сыстэма работы ў школах яшчэ не заняла належнага месца.

Канстатаваць, што паасобныя організацыі ў барацьбе з антысэмітызмам не скарыстоўваюць мэтадаў выхаваньня і грамадзкага ўзьдзейнічаньня адначасова з прымяненьнем пакараньня праз судова-сьледчыя органы.

У далейшым Сакратарыят ЦК КП(б)Б лічыць неабходным:

1. Прапанаваць НКАсьветы і фракцыі ЦСПСБ узмацніць працу па інтэрнацыянальнаму выхаваньню і разьясьненьню нацыянальнай палітыкі партыі, перайсьці ад кампанейскай да больш сталай сыстэматычнай работы. НКА ў месячны тэрмін распрацаваць і даць школам і навучальным установам паказаньні аб канкрэтных спасобах і шляхох па організацыі і правядзеньні работы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню.

2. Органам Юстыцыі не паслабляючы барацьбы з злоснымі праявамі антысэмітызму, зрабіць яе больш кваліфікаванай праз прыцягненьне да адказнасьці ня толькі канкрэтных праявіцеляў нацыянальнай варожасьці, але і яе натхніцеля, да якіх ужываць самыя суровыя меры пакараньня.

3. Парторганізацыям і профорганам правесьці разьясьніцельную работу аб шкоднасьці прымірэнцкіх адносін да дробных выпадкаў бытавога антысэмітызму і весьці змаганьне з апошнім ня толькі шляхам карных мер, а і шляхам выхаваўчай работы і грамадзкага ўзьдзейнічаньня.

4. Узмацніць барацьбу з злоснымі праявамі яўрэйскага і польскага шовінізму, з адкрытымі выступленьнямі велікадзяржаўнага расійскага шовінізму і беларускага нацыянал-дэмократызму.

5. Даручыць АПАД выдаць папулярную брашуру па пытаньню барацьбы з антысэмітызмам.

## Аб практычнай дапамозе цэнтральнымі ўстановамі Клімавіцкаму раёну ў працы па колектывізацыі.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 1-XI-29 г).*

1. Маючы на ўвазе шырока разгарнуўшаеся калгаснае будаўніцтва ў Клімавіцкім раёне, дасягнуўшае абагуленасьці ўжо да 30% усёй зямельнай плошчы, дзеля ўсямернага падтрыманьня ініцыятывы мясцовых організацый па поўнай колектывізацыі раёну, нарада, на падставе пастановы Бюро ЦК, лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) НКЗ і Калгассаюзу ў 2-х месячны тэрмін распрацаваць канкрэтны плян колектывізацыі ўсяго раёну, уключыўшы ўсе неабходныя мерапрыемствы, забясьпечваючыя разьвіцьцё калгасаў раёну (будаўніцтва прадпрыемстваў, культасьветных устаноў, бальніц, мэдыцынскіх і вэтэрынарных пунктаў і г. д.) і прадставіць СНК на зацьвярджэньне.

2) Прапанаваць НКЗ:

а) У тыднёвы тэрмін камандыраваць рад спэцыялістых непасрэдна ў раён для дапамогі мясцовым організацыям у распрацоўцы пытаньняў гаспадарчага ўпарадкаваньня буйных колгасаў.

б) Тэрмінова камандыраваць патрэбную колькасьць каморнікаў для поўнага землеўпарадраваньня ўсіх організаваных колгасаў.

в) Сумесна з Калгассаюзам у двух тыднёвы тэрмін камандыраваць ня менш 5 аграномаў для сталай працы ў раёне.

г) НКЗ, Малочна-жывёлаводнаму Саюзу пераглядзець плян разьмеркаваньня племянной птушкі ў бок максымальнага забесьпячэньня патрэб Клімавіцкага раёну.

д) НКЗ і Белсельсаюзу забясьпечыць поўны абмен насеньня простага аўсу ў раёне на чыстасортны.

3) Дзяржпляну распрацаваць пытаньні аб шырокім разгортваньні будаўніцтва агнятрывалых будынкаў у калгасах.

4) ЭКАНА пры разьмеркаваньні трактараў па акругах вылучыць патрэбную колькасьць іх непасрэдна для Клімавіцкага раёну.

5) Прапанаваць Калагссаюзу:

а) Сумесна з НКЗ перабудаваць ува ўсіх калгасах раёну, пачынаючы ад 300 *га* організацыйна-вытворчыя пляны не пазьней 1 красавіка 1930 г. і пачаткова вызначыць напрамак разьвіцьця колгасу.

б) Застанавіць непасрэднае кіраўніцтва Калгассаюзу ўсімі буйнымі колгасамі ў раёне, вызначыўшы і ўсклаўшы асабовую адказнасьць на аднаго з сяброў праўленьня, які-б сыстэматычна сачыў за працай у раёне і трымаў-бы сувязь з калгасамі.

в) Правесьці на працягу зімовага часу раённыя курсы для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў колгасаў, як з ліку ўжо організаваных, так і актывістых батракоў, беднякоў і лепшых серадняков з тых вёсак, дзе будуць організоўвацца колгасы ў будучым годзе.

г) Пры організацыі цэнтральных курсаў трактарыстаў і іншых спэцыялістых, забясьпечыць пэўную колькасьць месц непасрэдна з калгасьнікаў Клімавіцкага раёну.

6) Калгас і Малочсаюзам у 2-хмесячны тэрмін вывучыць пытаньне аб магчымасьці організацыі ў шырокім масштабе птушкаводнай гаспадаркі.

7) Белмалжывёлаводсаюзу:

а) Пабудаваць камбінаваны масла-сыраварны завод, распачаўшы пабудовы ўжо ў бягучым годзе.

б) Тэрмінова камандыраваць спэцыялістага па жывёлагадоўлі для вывучэньня пытаньня і вызначэньня месца пабудовы бэконнага мноЖніка, а таксама вывучыць пытаньне аб магчымасьці організаваць, племянны расаднік сьвіней.

в) Забясьпечыць запатрабаваньні колгасаў раёну вытворнікамі па рагатай жывёле і сьвіному стаду.

8) Бельсельбанку ўстанавіць непасрэднае кіраўніцтва работай крэдытнага таварыства ў раёне, забясьпечыўшы інструктаваньне і дапамогу на месцы.

9) Наркамздраву:

а) Організаваць пастаянныя ясьлі ў адным з калгасаў, зьверх ужо прызначанай колькасьці.

б) Пабудаваць, і абарудаваць у калгасе „Камунар" лазьню.

10) Калгассаюзу распрацаваць мерапрыемствы па электрыфікацыі саўгасу „Камунар" у бягучым годзе.

11) Упаўнаважанаму Наркампаштэлю і радыёцэнтру тэлефанізаваць калгас „Камунар" і радыёфіціраваць, пабудаваўшы трансляцыйны пункт у гэтым калгасе.

12) Фракцыі Белкоопсаюзу ў месячны тэрмін пераглядзець сетку крам у бок найбольш поўнага абхопу і лепшага абслугоўваньня калгасаў.

13) ЦК ЛКСМБ організаваць і правесьці ў раёне ў зімовы пэрыяд політ-школу стацыянарку, пераважна з комсамольцаў і беспартыйнай моладзі калгасаў, ня меньш як на 50 чалавек.

14) АПАД ЦК камандыраваць прапагандысцкую групу з ліку студэнтаў у 10 чалавек ня меньш як на месячны тэрмін працы ў час зімовых канікул.

15) Наркамасьветы ў тыднёвы тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па культурнаму абслугоўваньню Клімавіцкага раёну (адчыненьне школ, хат-чытален і г. д.).

# У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КП(б)Б.

## Пастанова Прэзыдыуму ЦКК і Калегіі НК РСІ БССР аб дзейнасьці калегіі акруговых РСІ і мэтадах іх масавай працы.

1. Адзначыць, што арганізацыя Калегіі Акр. РСІ садзейнічала ўмацаваньню савецкай працы АКК РСІ, больш правільнаму разьмежаваньню пытаньняў савецкага і парт. характару, узмацненьню сувязі з АВК і большаму ўцягненьню ў працу РСІ членаў КП(б)Б. Склад калегіі састаіць большай часткай з асноўных працаўнікоў РСІ, з удзелам рабочых ад варштату: з 41 — кіруючых працаўнікоў, КК—16, інспэктароў—10, рабочых ад варштату — 9, ваеннапрацаўнікоў — 2 (Віцебск, Менск), АПБ—1 (Гомель), Пракуратура—1 (Полацак), грамадзк. арганізац.—1 (Магілеў), партячэек—1 (Віцебск).

У далейшым, у мэтах яшчэ большага ўцягненьня ў працу Калегіі РСІ рабочых ад варштату лічыць неабходным пасьля перавыбараў АКК пашырыць склад калегіі да

7-мі ў Менскай, Гомельскай, Віцебскай і Бабруйскай КК, з тым, каб у склад калегіі ўваходзіла ня менш двух рабочых. У астатніх заставіць мінулы склад (5), пры гэтым зьвярнуць увагу Полацкай РСІ на нямэтазгоднасьць уключэньня ў склад калегіі РСІ інспэктароў—больш, чым аднаго, замяніўшы інспэктара кандыдатурай рабочага альбо членаў КК і інш.

2. Указаць Акр. РСІ на неабходнасьць зьнішчыць ў працы калегій РСІ наступныя недахопы:

а) няправільнае разьмеркаваньне пытаньняў савецкага характару паміж Калегіяй і Прэзыдыумам, калі пытаньні выключна савецкага характару і нават дробныя ставяцца на разгляд Прэзыдыуму, а не Калегіі і Бюро Скаргаў (нават пытаньні чысткі асобных зьвеньняў савецк. апарату не знаходзілі сабе належнага адбітку ў працы Калегіі); маецца неразгорнутасьць працы Калегіі - РСІ навогул у асобных КК (Полацкая мае за 5 м-цаў 4 пасяджэньні, у той час, калі пытаньні савецк. характару ставіліся на Прэзыдыуме);

б) пастаноўка на пасяджэньнях пытаньняў, якія павінны быць вырашаны адзінаасобна альбо ў парадку накіраваньня і даручэньня, што загружае абвесткі дню і зацягвае вырашэньне іх, паміж тым, накіраваньне павінна вырашацца сталымі працаўнікамі РСІ ў рэзалюцыйным парадку;

в) у мэтах большай хуткасьці праходжаньня пытаньняў практыкаваць іх разгляд шляхам апытаньня членаў Калегіі, практыкаваць прыцягненьне да прапрацоўкі і дакладаў членаў калегіі ня сталых працаўнікоў КК (што ў большасьці РСІ адсутнічае).

г) зьнішчыць сыстэму пастаноўкі дакладаў кіраўнікоў устаноў без праверкі выкананьня і папярэдняга абсьледваньня РСІ, якая сыстэма прыводзіць да няглыбокага вырашэньня пытаньня і „штэмпэляваньня" (напр., даклад акр. інжынэра аб будаўніцтве, даклад Акрза аб пасеўнай кампаніі і г. д.);

д) адсутнічае альбо зьяўляецца вельмі слабай пастаноўка пытаньняў з боку Бюро Скаргаў у сэнсе абагуленьня скаргаў па аднолькавым пытаньням і ўнясеньня прапаноў па зьнішчэньню альбо папярэджаньню недахопаў, на што зьвярнуць увагу РСІ, як на невыкананьне пастановы красавіковага пленуму ЦКК па дакладу Бюро Скаргаў НКРСІ;

е) зьвярнуць асобную ўвагу на невыкананьне ўсімі РСІ, за выключэньнем Магілеўскай РСІ, паказаньні НК РСІ аб абавязковасьці пры вынясеньні рашэньняў па найбольш значным абсьледвацельскім пытаньням указваць мэтад праверкі выкананьня гэтай пастановы, тэрмін выкананьня і праверкі. Прапанаваць РСІ ўвесьці гэта ў сыстэму працы, у асаблівасьці, даручэньне праверкі выкананьня прафэсыянальным арганізацыям, камсамолу, ячэйкам і г. д., устанавіўшы сталы нагляд за выкананьнем гэтых даручэньняў.

3. У зьвязку з тым, што ў працы Калегій РСІ наглядаюцца зьявішчы недастатковага ўдзелу альбо адсутнасьць удзелу пры разглядзе пытаньняў прадстаўнікоў прафорганаў і ячэек суадпаведных абсьледваных устаноў і прадпрыемстваў у мэтах прыцягненьня мас і масавых нізавых арганізацый наогул— прапанаваць Акр. РСІ:

а) абавязкова прыцягваць да разгляду прапаноў па выніках абсьледваньня прадстаўнікоў мясцовых праф. і парт. органаў, падкрэсьліваючы перад імі задачу праверкі імі выкананьня прапаноў і пастаноўкі ў РСІ;

б) прыцягваць таксама да актыўнага ўдзелу ў вырашэньні пытаньняў абсьледвацельскіх прац прадстаўнікоў абсьледвацельскіх рабочых груп, брыгад і камісій, ЧКК, „лёгкай кавалерыі" і інш.- з абавязковай пасылкай гэтым групам пастаноў дзеля садзейнічаньня РСІ па праверцы выкананьня пастаноў;

в) Мэтад адчыненых пасяджэньняў БС на мейсцы з удзелам рабочых, служачых (клюб, прадпрыемства і інш.) сябе апраўдаў, як форма сувязі з масамі. Калегія лічыць неабходным практыкаваць адчыненыя пасяджэньні на мясцох і Калегіі НКРСІ і Акр. РСІ па найбольш значным пытаньням, якія цікавяць шырокія рабочыя масы.

Прапанаваць Акр. КК РСІ вызначыць гэткія тэмы сваёй плянавай і пазаплянавай працы дзеля правядзеньня іх разгляду ў адчыненым парадку; тое-ж даручыць Арггрупе НКРСІ, падрыхтаваўшы ў бліжэйшы час першае адчыненае пасяджэньне Калегіі НК РСІ.

4. Улічваючы, што скліканьне аб'яднаных пасяджэньняў Прэзыдымаў КК і Калегій РСІ, як мэтад прыцягненьня к разгляду савецкіх пытаньняў і членаў Прэзыдыму АКК і як найлепшы парадак разгляду найбольш істотных пытаньняў, якія патрабуюць рашэньня іх і ў партыйным і савецкім парадку,—да гэтага часу практыкуецца вельмі слаба, у прыватнасьці, за 5 месяцаў па Віцебскай РСІ было аб'яднаных пасяджэньняў—4, па Магілеўскай—1, Гомельскай - 2, а ў астатніх ня было,—зьвярнуць увагу Акр. РСІ на мэтазгоднасьць практыкаваньня аб'яднаных пасяджэньняў па найбольш важным савецкім пытаньням. Лічыць мэтазгодным правядзеньне па суадпаведным пытаньням аб'яднаных пасяджэньняў Калегіі РСІ з савецкімі органамі, напрыклад, з Прэзыдыумам Гарсавету, Бюро сэкцыі РСІ, альбо на Калегіі НК РСІ сумесна з Прэзыдыумам ВСНГ і Калегіяй Наркамату (напр., па пытаньням рацыяналізацыі, прамысловасьці, рэарганізацыі кіраўніцтва прамысловасьцю і г. д.).

# УЗМАЦНІМ СУВЯЗЬ РАБОЧЫХ З САВЕЦКІМІ ЎСТАНОВАМІ.

## Мэтады і формы лепшай сувязі рабочых з савецкімі ўстановамі.

Пытаньням сувязі рабочых фабрык і заводаў з савецкімі ўстановамі дагэтуль зварочвалася мала ўвагі. Мы шмат крычымо аб арабачэньні савецкага апарату, аб лепшай сувязі яго з рабочымі масамі. Мы, вядома шмат, і зрабілі ў гэтым напрамку, высоўваньне рабочых на кіруючыя пасты і г. д., але гэтым абмежавацца нельга.

Скрыўленьні клясавай лініі савецкімі, гаспадарчымі і коопэрацыйнымі організацыямі, якія з кожным днём усё больш і больш ускрываюцца перад грамадзкасьцю, тлумачыцца ў большай частцы тым, што гэтыя організацыі адарваны ў штодзённай сваёй рабоце ад рабочых мас. Пытаньням лепшай сувязі савецкіх організацый з рабочымі масамі павінна быць адно з галоўных пытаньняў работ савецкіх і вытворчых ячэек КП(б)Б.

Як нашы савецкія організацыі дагэтуль ажыцьцяўлялі сувязь з рабочымі масамі? У большай частцы яна выяўлялася шляхам справаздачных ці пэрыядычных дакладаў на рабочых сходах, зьездах, конфэрэнцыях і г. д. Ці можа такая сувязь з савецкімі організацыямі здаволіць рабочых? Адказ можа быць толькі такі, што такая сувязь ня можа здаволіць ні першых, ні другіх, і ні ў якім выпадку не задавальняе тых патрабаваньняў, якія маюцца ў гэтых адносінах.

Нам неабходна зрабіць, каб паміж рабочымі фабрык, *заводаў і савецкімі ўстановамі была сталая неразрыўная сувязь, каб рабочыя масы штодзенна маглі прымаць удзел у нашым непасрэдным савецкім будаўніцтве.*

Гэты ўдзел не павінен выяўляцца толькі ў заслухоўваньні справаздачных ці наогул дакладаў аб становішчы той ці іншай савецкай організацыі, дзе рабочаму ня зусім лёгка разабрацца ў тых лічбах, якія яму прыпадносяць, на якіх ён можа зубы паламаць, пакуль раскусіць. Нам патрэбна знайсьці такія мэтады, якія маглі-б узмацніць сувязь і кантроль з боку шырокіх рабочых мас над савецкім апаратам

Вядома, і зараз рабочыя ўдзельнічаюць у савецкім будаўніцтве. Будзе паклёпам на наш савецкі апарат, калі сказаць, што рабочыя ня прымаюць удзелу ў яго будаўніцтве, але ступень удзелу здаволіць нас на сёнешні дзень ня можа. Рабочыя прымаюць удзел у абгаварэньні прамфінплянаў, даюць наказы савецкім організацыям і г. д. Але што робіць гэты апарат штодзённа, як ён працуе, як ён адносіцца і выконвае тыя наказы, якія ён атрымаў ад рабочых мас, аб гэтым вельмі часта рабочыя ня ведаюць. Вельмі часта рабочыя адзываюцца аб савецкім апараце як аб самым кепскім бюракратычным апараце, а гэта большай часткаю тлумачыцца тым, што рабочы ведае аб савецкім апараце па чутках. Магчыма таксама ўпэўнена сказаць, што перараджэньне асобных клетачак нашага савецкага апарату тлумачыцца адрывам яго ад рабочых мас.

Усё гэта гаворыць аб тым, што тыя формы сувязі, якія існуюць і дагэтуль, ні ў якім разе ня могуць нас задаволіць.

Пытаньне аб неабходнасьці знайсьці лепшыя формы сувязі паўстала ўжо даўно. Як можна лепш зьвя-

зацъ рабочых прадпрыемстваў з савецкім апаратам? Адказам на пастаўленае ва ўпор пытаньне, зьяўляюцца тыя формы і мэтады, якія высоўваюцца *шэфствам рабочых організацый над савецкімі організацыямі.*

Якія формы павінна прыняць гэта шэфства, ці тое, што практыкуецца ў нашых пралетарскіх цэнтрах—Маскве, Харкаве і г. д.—прымацаваньне рабочых брыгад да савецкіх організацый. Шэфства ставіць перад сабой галоўныя мэты зьвязаць лепшых рабочых, якія працуюць на фабрыках і заводах з савецкімі апаратамі. Уся работа шэфорганізацый павінна канцэнтравацца навакол наступных пытаньняў:

1. Удзел у сав. будаўніцтве, на пасяджэньнях калегіі, прэзыдыумаў і ў разьвязваньні найважнейшых пытаньняў работы той установы, да якой прымацована брыгада.

2. Барацьба з бюракратызмам, валакітай, удзел у эканомкамісіях, прыгляданьне да работы апарату і г. д.

3. Удзел у абсьледаваньнях у чыстцы савецкага апарату, разбор скаргаў, сувязь з РСІ і г. д.

Якім чынам гэта зрабіць?

Шэфорганізацыя выдзяляе групу таварышоў. Прычым неабходна высунуць больш працаздольных, у асаблівасьці на першы час. Гэта група складаецца ад 20—40 ч., гледзячы па ўстанове, разьбіваецца на брыгады з 3—6 чал. (пажадана, каб у гэтыя брыгады ўваходзілі таварышы з усіх 3-х зьмен, каб яны маглі чаргавацца), якія прымацоўваюцца да работы прэзыдыуму, да асобнага п/аддзелу ці інспэктара, які найгалоўнейшыя пытаньні вырашае пры ўдзеле брыгады ці асобнага сябра брыгады, навучае іх тэхніцы, а затым можа даручаць асобныя самастойныя выкананьні таго ці другога заданьня.

Шэфорганізацыя і падшэфная павінны практыкаваць супольныя пэрыядычныя (1 раз у 2-3 месяцы) сходы аб дасягненьнях і недахопах у працы, а таксама брыгады павінны рабіць справаздачы на рабочых сходах (пасяджэньні фабкому ці дэлегацкіх сходах) аб сваёй рабоце.

Гэта дасьць магчымасьць больш шчыльна ўвязаць рабочых фабрык і заводаў, працуючых непасрэдна ля варштату, і яны змогуць прымаць штодзённы ўдзел у пабудове сваёй дзяржавы.

Піанэр гэтай справы ў нас зьяўляецца ф-ка Швэйпрому. Два тыдні таму назад 16-XI у газэце „Зьвязда“ была зьмешчана заметка сакратара ячэйкі КП(б)Б т. Шпэктарава, „што мы рабочыя і т. д. прымаем шэфства над Наркамгандлем і выклікаем пасьледваць нашаму прыкладу такіх-та і г. д.“ 18-XI было супольнае пасяджэньне камісіі па выпрацоўцы канкрэтных мерапрыемстваў па правядзеньню шэфства, дзе было намечана як і што трэба зрабіць для зьдзяйсьненьня неабходнай нам справы. Мерапрыёмствы намечаныя амаль што ахапілі ўсё тое, што трэба зрабіць на першы час, але вось ужо прайшло 2 тыдні, а да выкананьня намечанага яшчэ ня прыступлена, калі так будуць адносіцца ў далейшым, дык такія важныя пачынаньні могуць застацца на паперы.

Нельга так адносіцца да сур'ёзнай справы спусьціўшы рукавы: „а вось яшчэ пачакаем, не гарыць“, неабходна тэрмінова прыступіць да зьдзяйсьненьня намечанага пляну! На дапамогу швэйнай ф-кі павінны прыйсьці партыйныя камітэты і профсаюзы.

Акрамя ўсяго вышэй сказанага, шэфства ўключае ў сябе і такую важную справу для нас, як падрыхтоўка рабочых з прадпрыёмстваў да плянамернага высоўваньня іх на кіруючыя пасты і арабачваньне савецкага апарату.

Да гэтага часу мы мелі такое становішча, калі парткомы ці рабочыя організацыі прыступалі да высоўваньня рабочых на адказныя работы, рабочыя рукамі і нагамі адмахваліся ад гэтага, а калі і пашоў на высоўваньне, дык таксама з вялікім страхам, а можа быць ня

спраўлюся, усё-ж такі незнаём і г. д. Мы маем канкрэтныя выпадкі, калі высоўвалі рабочых, яны, папрацаваўшы троха, прыходзілі з сьлязамі на вачох, каб аслабанілі ад гэтага высоўваньня. Прыкладам зьяўляецца таварыш не малады, сябра партыі, які працуе ля варштату, партстаж з 1917 г. быў высунуты ў апарат НКЗ, гэта было пасьля таго, калі мы так многа крычалі аб абрабачываньні апарата НКЗ, ён папрацаваў там тыдзень ці больш, а потым прышоў у тую організацыю, якая яго высунула і паставіў пытаньне такім чынам, што арганізацыі прышлося згадзіцца на тое, каб яго „забраць“ назад да варштату. А ўзяць яшчэ такі прыклад. Летась у Гомелі быў высунуты рабочы, член партыі Добрускай пішчапапернай ф-кі, з вялікім вытворчым стажам, быў сакратаром цэхячэйкі, на работу ў Гомельскае аддзяленьне Дзяржбанку. Гэты таварыш месяц працаваў і на працягу гэтага часу, ня гледзячы на тое, што ўмовы для яго работы былі створаны, хадзіў кожны дзень у АК і плакаў, каб яго адпусьцілі назад да варштату і нарэшце прышлося згадзіцца і аслабаніць яго, а ўсё-ж такія выпадкі не адзінкі. Чаму гэта атрымоўваецца так?

Таму, што гэтыя таварышы ня мелі разуменьня аб рабоце гэтых устаноў і аб іх функцыях да высоўваньня. Я ня думаю апраўдваць паступак гэтых таварышоў, бо шмат рабочых-вылучэнцаў знаходзяцца на рабоце, якія да высоўваньня ня ведалі функцый гэтага апарату, я ня думаю даказваць, што гэтыя таварышы былі правы ў сваіх паступках, усё-ж „не сьвятыя гаршкі лепяць“, але факт застаецца фактам.

А калі ўзяць размовы вылучэнцаў, іх скаргі, якія зьяўляюцца ўпаўне правільнымі, што ім не дапамагаюць, што вельмі часта ня ведаюць з чаго пачаць і г. д., дык стане яшчэ ясьней, што высоўваньне ў далейшым павінна прыняць іншыя формы. Адна з галоўных форм, гэта павінна быць тая, што вылучэньне павінна пайсьці галоўным чынам за лік тых, якія працуюць у брыгадах, і якія за гэты час выявілі здольнасьці працаваць, і вылучэньне наша ня будзе насіць выпадковы характар.

Гэтым мерапрыемствам мы дасягнем таго, што лепш зьвяжам рабочых з нашымі савецкімі, гаспадарчымі і каапэрацыйнымі ўстановамі, што нашы вылучэньні ня будуць насіць выпадковы характар, што мы на самой справе выпаўнім заветы Ільліча, што наш апарат будзе самым лепшым апаратам у сьвеце, што на самой справе „кожная кухарка зможа кіраваць дзяржапаратам“. Гэтым-жа шляхам мы зможам мабілізаваць актыўнасьць рабочых мас навакол генэральнага пытаньня нашай партыі барацьбы з бюракратызмам і арабачваньне савецкага апарату.

Неабходна, каб рабочыя астатніх фабрык і заводаў ня толькі Менску, але і іншых нашых пралетарскіх гарадоў, пасьледвалі прыкладу Менскай швэйнай фабрыкі, і апошняй правесьці намечанае ў жыцьцё, а партыйным і профэсыйным організацыям узяць кіраўніцтва гэтай справай у свае рукі і сачыць за тым, каб каштоўныя неабходныя нам мерапрыемствы не заваляліся за кіпамі папер.

Ц. Ас.

---

# Больш увагі вылучэньню рабочых у апарат.

Зараз, калі ўся ўвага партыі і рабочае клясы зьвернута на вялікую сур'ёзную працу, выкананьне генэральнага пяцігадовага пляну і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, перад намі рашуча паўстае пытаньне шырокага рабочага кантролю ў апараце.

Мы яшчэ і па сёньняшні дзень у значнай ступені маем апарат, у якім знаходзяцца людзі царскага выхаваньня, дробна-буржуазнай інтэлегенцыі, якія не даюць нам гарантыі, што ўсе партыйныя дырэктывы і пастановы ўрадавых органаў будуць выкананы.

Адсюль вынік, што нам патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на справу непасрэднага рабочага кантролю, непасрэднага вылучэньня рабочых у апарат, замяняць тых, якія ня здольны праводзіць клясавую лінію ў апараце, і ня здольны праводзіць генэральную лінію партыі.

Пытаньне вылучэньня рабочых было асабліва завострана на XVI партканфэрэнцыі. т. Якаўлеў у сваім дакладзе гаварыў: „Нам патрэбна такое палепшаньне апарату, якое-б зрабіла яго баяздольным супроць кулака і нэпмана, нам патрэбна клясавая ўстаноўка апарату“.

Нам патрэбен апарат, каб ён рашуча змагаўся з бюрократызмам, цыганінай і адпавядаў усім запатрабаваньням рабочае клясы і працоўнага сялянства.

Прайшло ўжо больш паўгода з моманту пастаноўкі гэтага пытаньня на XVI партканфэрэнцыі і партыйныя, асабліва прафэсыянальныя арганізацыі, мала яшчэ зрабілі ў гэтай справе, а гэтае пацьвярджае нарада вылучэнцаў, якая была праведзена пры ЦК КП(б)Б.

Галоўныя недахопы ў нас у вылучэньні, гэта тое што, вылучэньне праводзіцца яшчэ пажарным парадкам, няма ніякай падрыхтоўкі да гэтага.

Былі выпадкі калі вылучэнец няведае, што яго партыйная ячэйка і Райком вылучылі ў апарат, да таго часу пакуль ня ўбачыў паведамленьне ў газэце (БСПС). І гэта ў той час, калі XVI партканфэрэнцыя асабліва падкрэсьліла, што вылучэньне павінна праводзіцца шляхам шырокага абгаварэньня рабочымі масамі, на шырокіх агульных сходах рабочых.

Шмат выпадкаў, калі вылучэнцы, пападаючы ў апарат, адчуваюць сябе чужымі, ня маюць ніякай дапамогі з боку кіраўнікоў, ёсьць выпадкі (НКАсьветы), калі кіраўнік на працягу некалькіх м-цаў ня ведае, што ў яго ў апараце працуе вылучэнец. Партыйныя ячэйкі мала цікавяцца, у якіх умовах працуюць вылучэнцы, не даюць належнай дапамогі ў складаньні спрыяючых умоў працы.

Галоўны недахоп партыйных ячэек савецкіх устаноў і прафарганізацый у тым, што яны вылучэнцаў нагружаюць вялікай грамадзкай працай, у той час, калі ім патрэбна перш за ўсе больш азнаёміцца і падрыхтавацца да той галіны працы, у якой яны працуюць непасрэдна ў апараце. У выніку выходзіць кіраўнік, які ня мае магчымасьці справіцца з сваёю непасрэднаю працаю, ня можа сапраўды ў поўнай меры праводзіць пралетарскае кіраўніцтва апаратам.

У справе павышэньня тэорытычнай і практычнай кваліфікацыі вылучэнцаў таксама мала зьвернута ўвагі. Напрыклад: Наркамзем абгаварваў пытаньне аб арганізацыі курсаў для падрыхтоўкі вылучэнцаў яшчэ ў ліпені, м-цы, а ўжо лістапад і справа на мейсцы.

Ня зусім добрыя вынікі праведзеных курсаў вылучэнцаў пры НКАсьветы, дзе пасьля сканчэньня большасьць вылучэнцаў пайшлі на вытворчасьць, нават сярод іх маюцца беспрацоўныя, у той час калі апарат патрабуе зараз-ж рашучага перараблёньня і новага кадру пролетарскіх кіраўнікоў.

Усе гэтыя недахопы гавораць за тое, што Акругкомы, РК і ячэйкі КПБ, і прафэсыянальныя арганізацыі мала зьвярнулі ўвагі справе вылучэньня.

Трэба зараз партыйным і прафэсыянальным арганізацыям зрабіць праверку, што зроблена ў гэтай галіне, праверыць, як выкананы партыйныя дырэктывы. Зараз Лістападаўскі Пленум ЦК УсеКП(б) яшчэ раз сыгналізуе як мага больш рашуча ўзяцца за пралетарызацыю савецкага апарату.

**Пецярэнка.**

# З АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ МЕЙСЦ.

## Супроць казённага выкананьня партдырэктыў.

Усякаму мала-мальскі партыйна пісьменнаму чалавеку вядома важнасьць і сур'ёзнасьць партработы на вёсцы.

Уся работа партячэйкі на вёсцы павінна канцэнтравацца навокал работы з беднатою, правядзеньня клясавай барацьбы (наступленьне на кулацтва), перабудовы вёскі на сац. лад (калгасы), а для гэтага неабходна мець базу росту.

Базай росту ячэек у вёсцы зьяўляюцца батракі, беднata і калгасьнікі і таму пастаноўка палітвыхаваўчай работы сярод гэтых груп зьяўляецца галоўным зьвяном у рабоце вясковых ячэек. Акрамя гэтага вялізарнейшае значэньне мае партыйная сетка, бо выхоўваць у партыйным духу батракоў, беднату і калгасьнікаў могуць толькі партячэйкі. Вось таму пастанова партыі аб пашырэньні партсеткі вёскі за лік арганізацыі партячэек у саўгасах і калгасах мае найвялікшае значэньне.

12-ы зьезд КП(б)Б у рэзалюцыі па дакладу т. Васілевіча „Аб вярбоўцы рабочых, рэгуляваньні росту і чысткі КП(б)Б“ у пункце аб працы на вёсцы гаворыць:

„Зьезд даручае забясьпечыць на бліжэйшыя два гады прыём у партыю ў вясковых ячэйках ня менш 50 проц. батракоў і с.-гасп. рабочых“.

Гэта пастанова абавязвае РК партыі наладзіць работу ў першую чаргу ў саўгаскіх ячэйках КП(б)Б, таму, што галоўнай базай росту за лік батракоў і с.-гасп. рабочых зьяўляюцца саўгасы, бо там сканцэнтравана большасьць вясковых рабочых.

Вось таму ў той-жа рэзалюцыі трохі ніжэй гаворыцца:

„Зьезд даручае дамагацца арганізацыі ва ўсіх саўгасах, якія налічваюць ня менш 20 чал. сталых с.-гасп. рабочых, партыйных ячэек“.

Да выкананьня гэтай пастановы РК нельга аднесьціся фармальна. (Органі аваць ячэйкі нават там, дзе маюцца 20 рабочых, але няма ніводнага сябра і кандыдата партыі). Бо партыі трэба ня форма, а існасьць. бо пункт рэзалюцыі нельга так разумець, а факты даказваюць, што некаторыя райкомы няправільна зразумелі гэтую пастанову.

Прыкладам фармальнага казённага разуменьня і выкананьня гэтага рашэньня зьяўляецца пастанова Дрыбінскага РК аб арганізацыі ячэйкі ў Дрыбінскім саўгасе—фэрмы беларускай с.-г. Акадэміі.

Дрыбінская фэрма-саўгас знаходзіцца амаль што ў раённым цэнтры (за поўкілёмэтра ад мястэчка) і мае каля 20 рабочых, але сярод іх няма ніводнага члена і кандыдата партыі. Ці можна тут у такім выпадку орган зоўваць ячэйку? ці лепш было-б райкому падумаць наконт таго, каб усю работу местачковай ячэйкі, якая налічвае 12 чал., перавесьці ў саўгас, пакуль ячэйка не падрыхтуе частку рабочых саўгасу для ўступленьня ў партыю, ды нагул у мястэчку базай росту зьяўляецца калгас, і таму арганізоўваць асобныя ячэйкі нямэтазгодна.

Але РК трэба выканаць пастанову, няхай гэта будзе фармальна, але каб значылася ў час справаздачы дакладу „дырэктывы партыі выкананы“, і РК знаходзіць выхад.

У практыцы партыйных ячэек маюцца прымацованыя, такіх можна знайсьці ў кожнай ячэйцы, але ячэйка з адных прымацованых рэдка калі сустракаецца, але тут ішла гутарка „аб выкананьні парт. дырэктыў“, і РК бярэ і вылучае 4-х таварышоў з мястэчковай ячэйкі (АПО РК КП(б)Б, заг. Нар. домам, страх. агента і кандыдата партыі настаўніка) і з гэтых таварышоў арганізоўвае „саўгаскую“ ячэйку.

Наколькі гэтай насаджанай ячэйкай Дрыбенскі райком выканаў пастанову партыі, можна паспрачацца, па-мойму, гэта павінна служыць прыкладам, як ня трэба выконваць пастаноў партыі.

А зараз паглядзімо, як саўгаская ячэйка працуе і ці цікавяцца рабочыя працай гэтай ячэйкі. У размове з рабочымі ніхто ня ведаў аб тым, што існуе ў іх у саўгасе ячэйка КП(б)Б. Падрыхтоўка рабочых да прыёму ў партыю не вядзецца. Але-ж ня толькі тым, што будзе фармальна існаваць ячэйка, будуць зьбірацца 4 чал. раз у 10 дзён, аб чымсьці гутарыць і выносіць рэзалюцыі. У гэтым ня можа заключацца работа саўгаскай ячэйкі.

РК меў на ўвазе пры арганізацыі ячэйкі, што такім шляхам ён уцягне рабочых саўгасу ў партыю, але РК трэба было чытаць рэзалюцыю XII зьезду Партыі да канца, а там гаворыцца: як і за лік каго наша партыя павінна расьці.

У пункце аб партвыхаваўчай працы і росьце ў той жа рэзалюцыі гаворыцца: „Зьезд даручае пры пабудове партыйнай і палітасьветнай сеткі пры камплектаваньні існуючай сеткі і абавязкова ўлічваць неабходнасьць уцягненьня б/п рабочых, батракоў і с.-гасп. рабочых, дабіваючыся, каб ня менш 30—40 проц. было ўцягнута гэтай катэгорыі рабочых і батракоў, якія будуць зьяўляцца рэзэрвам для ўцягненьня ў партыю. У мя цох скапленьня батракоў неабходна арганізаваць спэцыяльныя палітасьветныя курсы для батракоў і с.-гасп. рабочых дзеля падрыхтоўкі іх у партыю“.

Дык вось як зьезд парашыў як у далейшым і за лік каго наша партыя павінна расьці, а што зрабіў па гэтаму пытаньню Дрыбенскі райком. Палітшкола арганізавана, нават яна знаходзіцца на тэрыторыі саўгасу, але батракоў і саўгаскіх рабочых там амаль што няма. Трэба ўцягнуць у палітшколу ў першую чаргу перадавую частку рабочых саўгасу, падрыхтаваць глебу для росту за лік іх і тады, калі будуць 3-4 кандыдаты партыі з саўгаскіх рабочых, можна ставіць пытаньне аб арганізацыі кандыдацкай групы, прымацаваўшы ці паслаўшы на сталую работу ў саўгас моцнага члена партыі, а пакуль што арганізаваную „саўгаскую“ ячэйку трэба распусьціць.

Партыі трэба не казённае, і фармальнае выкананьне дырэктыў, а існасьць, аб гэтым неабходна памятаць Дрыбінскаму райкому.

Ц. А.

# ПА АК і РК КП(б)Б.

## Аб рабоце профсаюзаў.

*(Мазырская акруга).*

З найбольш значных посьпехаў работы профсаюзаў пленум АК адзначыў рост палітычнай актыўнасьці і вытворчай ініцыятывы профсаюзных мас у справе выкананьня плянаў і праграм прамысловасьці, вызначаных партыяй і сав. уладай (перавыбары саветаў, сац. спаборніцтва, пазыкі і інш.), павялічэньне на 35 адзінак рабочых і батрацкіх камітэтаў саюзу с.-г. рабочых і ўзмацненьне візавой профсаюзнай сеці,– палепшаньне яе абслугоўваньня; значнае палепшаньне матэр'яльна-бытавых умоў, мабілізацыя ўвагі саюзных мас на барацьбу з недахопамі (бюракратызм, прагулы, п'янства і інш.).

Побач з дасягненьнямі пленум адзначыў, што сацыялістычнае спаборніцтва да гэтага часу не ахапіла яшчэ ўсіх членаў профсаюзаў – ня гледзячы на тое, што ў гэтым напрамку ёсьць вялікі рух, які ня толькі не вазглаўляецца саюзамі, але часта праходзіць без дастатковага кіраўніцтва.

Прапанована саюзным арганізацыям пабудаваць масавую, клюбную і культмасавую работу так, каб яна побач з растлумачэньнем мэтаў і задач сац. спаборніцтва дапамагала выкананьню ўжо заключаных умоў.

Саюзам даручана сачыць за тым, каб палітычна-гаспадарчыя дагаворы не зьяўляліся ўрачыстымі дэклярацыямі, а каб былі плянамі работ данага прадпрыемства, альбо ўстановы і выконваліся ў вызначаны тэрмін, для чаго весьці сыстэматычную праверку выка-

наньня заключаных дагавораў і прапаноў вытворчых нарад. У правядзеньні гэтай работы перайсьці на сыстэму жывога кіраўніцтва масамі, прыцягваючы да гэтае справы ўдарныя брыгады, пэрыядычна інфарміруючы аб посьпехах і цяжкасьцях сац. спаборніцтва.

Сац спаборніцтва павінна праводзіцца ў напрамку садзейнічаньня большай смычцы гораду з вёскай, шляхам выкліку заводаў саўгасаў праз асобныя канкрэтныя заданьні, накіраваныя на пасіленьне профсаюзаў на разьвіцьцё колгаснага і саўгаснага будаўніцтва.

Адзначаючы пасьпяховае правядзеньне колумоўнай кампаніі, узрост актыўнасьці рабочых мас, прапанована замацаваць гэтую актыўнасьць пастаноўкай пэрыядычнай праверкі выконваемасьці колдагавораў.

У адносінах зарплаты пленум адзначыў рост па прамысловасьці мясцовага бюджэту на 8 проц., коопэрацыйна-гаспадарчага на 4 проц. і даў паказаньні, каб рост зарплаты ў далейшым праходзіў пры цеснай сувязі з ростам вытворчасьці працы, падцягваючы найбольш адстаючыя групы.

Па лініі коопэрацыі і прапанована профсаюзам замацаваць кіраўніцтва рабочай коопэрацыяй, дабіўшыся бесьперабойнага здавальненьня рабочых прадуктамі першай неабходнасьці. ЦРК, які яшчэ да гэтага часу ня ўступіў у сац. спаборніцтва прапанована тэрмінова распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па гэтаму пытаньню.

Далейшая сувязь і кіраўніцтва профсаюзаў нізавымі профорганізацыямі павінна будзе праходзіць, галоўным чынам, па лініі жывога кіраўніцтва шляхам інструктаваньня, пасылкі ў нізавыя ячэйкі на доўгі тэрмін абсьледавацельскія групы, адказных працаўнікоў, прымацаваньне іх да асобных ячэек з мэтаю непасрэднага ўдзелу ў практычнай рабоце на месцы.

## Выканаць плян калектывізацыі.

Па дакладу аб ходзе калектывізацыі ў акрузе Полацкі АК КП(б)Б канстатаваў, што апошні год калектывізацыі па акрузе праходзіў пры вялікім імкненьні ў калгасы бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і што ў выніку гэтага маецца значнае павялічэньне тэмпу калектывізацыі. Так, зямельная плошча па акрузе, занятая пад калектыўнымі гаспадаркамі, павялічылася да 8 проц. замест вызначаных па пляну 5 проц. Замест організацыі 45 калгасаў па пляну організавана 70 і сярэдні разьмер калгасу даведзены да 152 гэкт. (па пляну 140—150 гэкт.).

Побач з гэтым меўся шэраг асобных недахопаў, як-та: Райкомы, сельячэйкі, с.-саветы зусім мала ўдзялялі ўвагі якаснаму боку справы, у сувязі з чым організацыя калгасаў праходзіла самацёкам, а організаваныя асобныя калгасы праз некаторы час распадаліся. Апроч гэтага, назіраліся асобныя моманты адсутнасьці дастатковa-чоткай клясавай лініі пры організацыі калгасаў.

На падставе ўсяго гэтага АК даў шэраг практычных паказаньняў. У прыватнасьці АК прапанаваў фракцыі АВК Калгассаюзу і РК КП(б)Б пашырыць і паглыбіць работу масавай калектывізацыі, гаспадарча замацоўваючы і праводзячы зямляўпарадкаваньне ва ўноў організуемых калгасах. Асобныя с-сав., дзе калектывізацыяй ахоплена да 50 проц. плошчы, прапанована адпаведным організацыям прыняць захады да сплашной калектывізацыі. Лжэкалгасы і калгасы, засораныя чуждым элемэнтам, адпаведным чынам перабудаваць, ачысьціць ад усяго непатрэбнага і папоўніць бядняцка-серадняцкім складам. Прапанована РК КП(б)Б і ЛКСМ узмацніць работу па пашырэньню сеткі партыйных і комсамольскіх ячэек, а саюзу працасьветы даручана ліквідаваць няпісьменнасьць усяго дарослага насельніцтва да 45 год.

## Калгасны рух у Віцебскім раёне, Віцебскай Акругі.

Наш раён зьяўляецца раёнам выключна хутарскога землякарыстаньня, якое пачалося ў часы сталыпіншчыны і працягвалася ў часы прышчэпаўшчыны.

Але ня гледзячы на такія неспрыяючыя дзеля калектывізацыі ўмовы, мы маем даволі шпаркі тэмп калектывізацыі. Калі вясною 1920 г. мы мелі 20 калгасаў, дык зараз ужо 46 калгасаў, альбо рост на 130%. Побач з організацыяй сярэдніх па разьмерах калгасаў, мы маем 2 вялікіх калгасы: адзін у Войтаўскім с-с на плошчы каля 600 гэкт. і другі—у Селюцкім с-савеце, дзе ўжо зараз маецца плошча каля 1000 гэктараў з лікам 128 гаспадарак, але праца па організацыі яшчэ ідзе, і магчыма далейшае павялічэньне калгасаў.

Якія памылкі мы заўважылі пры організацыі калгасаў у нашым р-не. Па-першае—гэта засоранасьць некаторых калгасаў кулацкім элемэнтам. Частка яго вычышчана (Войтава, Мілавіды, Машканы і г. д.), а частка яшчэ не. Вось на гэта мы павінны зьвярнуць увагу. Мы мелі цікавы выпадак, напрыклад, у Машконскім калгасе, калі туды пралез кулак (зараз выключаны з калгасу). Гэты кулак за час прабываньня ў калгасе пасьпеў накіраваць у навучальныя ўстановы сваіх сыноў, як „дзяцей калгасьніка" ў той час, як мы ня зможам нашымі школамі ахапіць усіх бядняцкіх дзяцей.

Другі наш недахоп, які мы зараз выпраўляем, гэта невялікі разьмер організуемых калгасаў. Вядома, што калгас у 60-70 гэктараў зямлі з лікам 5-6 гаспадарак мае зусім малыя эканамічныя і палітычныя пэрспэктывы.

Трэці недахоп, які таксама мы выпрамляем, гэта меўшаяся ў некаторых мясцох тэндэнцыя высяляць з вёскі беднякоў, не

жадаючых ўвайсьці у калгас (Княжыца, Скрыдлева і г. д.). Таварышы ў даным выпадку не жадалі папрацаваць так, каб уся беднага дадзенай вёскі ўвайшла ў калгас, а абмяжоўваліся найбольш лёгкім шляхам—пайсьці на высяленьне, супроць чаго райком павёў рашучую барацьбу.

І нарэшце—слаба праводзіцца абслугоўваньне калгасаў аградапамогай, культпрацай і г. д.

Вакол калектывізацыі разгортваецца вельмі абвостраная клясавая барацьба, лепшыя калгасы сустракаюць вялікія перашкоды з боку кулацкага элемэнту, які спрабуе перашкодзіць справе сацыялістычнага будаўніцтва. Маем выпадак замаху на забойства старшыні аднаго з калгасаў (Старасельскі с-с) з боку кулакоў.

Дзеля практычнай дапамогі калгасам у іх працы, райком пасылае на некалькі дзён больш 20 адказных таварышоў у калгасы.

Першага сьнежня на пашыраным пленуме райкому стаіць даклад аб становішчы саўгаснага і калгаснага будаўніцтва ў раёне, які падагуліць гэтую працу. Пленум наменіць шэраг практычных мерапрыемстваў па далейшаму больш шпаркаму тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва раёну.

**А. Эльман.**

## Становішча партасьветы ў Сеньніншчыне.

Падрыхтоўчая праца па партпалітасьвеце была распачата з 1-га жніўня, былі праведзены адчыненыя сходы партячэек, на якіх абгаварваліся пытаньні значэньня партасьветы і формы, якія існуюць, асабліва была папулярызавана завочная форма партвучобы. У выніку чаго маем па завочнаму навучаньню С.П.Ш—5 асоб, Б.К.У. імя Леніна—7 асоб і Ленінградзкі Камвуз—5 асоб.

Гуртковай вучобай ахоплена 420 асоб. Гурткі прыступілі к працы з 1-га кастрычніка, прапрацоўваючы бягучыя пытаньні.

Да праграмных пытаньняў ня прыступілі за выключэньнем В.П.Ш. і стацыянарак, дзякуючы таму, што адсутнічала літаратура і якая да гэтага часу яшчэ не даслана.

Адным з недахопаў у сыстэматычнай працы зьяўляецца недахоп падрыхтаваных прапагандыстых, і тыя, якія ёсьць, ня могуць праводзіць стала працу з-за адсутнасьці кіруючай літаратуры, якая-б дапамагла таму ці іншаму кіраўніку глыбей разабрацца ў тым ці іншым пытаньні, на што, бязумоўна, патрэбна зьвярнуць увагу, інакш наш вясковы прапагандыст не напоўніць сваіх ведаў і ня зможа ў поўнай меры выканаць задач, якія на сёньня ставіць партыя.

**Афанасенка.**

## Аб становішчы партыйнай працы ў саўгаскіх і калгаскіх ячэйках КП(б)Б па Грэскаму раёну.

Усяго па Грэскаму раёну маецца: 2 саўгасы і 9 калгасаў, з якіх абсалютная большасьць зьяўляецца калгасамі ўноў арганізаванымі.

Пры адным саўгасе і адным калгасе маюцца партыйныя ячэйкі, усе астатнія калгасы і саўгасы абслугоўваюцца вясковымі ячэйкамі КП(б)Б.

Ячэйкі КП(б)Б недастаткова праводзяць работу сярод калгасьнікаў, батракоў і с-гаспадарчых рабочых, па арганізацыі адпаведнага ўплыву на акаляючае насельніцтва ў бок яго калектывізацыі і вытворчага кааперыраваньня, недастаткова праводзяць работу па ўцягненьню ў партыю гэтых праслоек.

Маюцца выпадкі, калі рабочыя саўгасу хварэюць сялянскімі настроямі ў зьвязку з гаспадарчымі цяжкасьцямі—з недахопам тавару і г. д.

Укамплектаваньне калгасаў новымі членамі ідзе нездавальняюча, ёсьць выпадкі, калі асобныя партыйцы, зьяўляючыся кіраўнікамі, халатна і безадказна адносяцца да якаснага падбору членаў калгасаў. Так у калгасе Чырвоны Маяк, які арганізован на 1300 га зямлі, былі прыняты былы старшыня с.-г. Т-ва Дашукевіч, растратчык грошай у суме каля 2000 рублёў і выключаны з партыі за п'янства і марадзёрства ў годы грамадзянскай вайны, Лосік Кузьма, якія пачалі дэзарганізаваць калгас, унёсшы групоўкі сярод членаў і ў сучасны момант выключаны з калгасу.

Укамплектаваньне калгасаў праводзіцца за кошт „адзіночак“ выхадцаў з сямей бяз сродкаў вытворчасьці. Так па калгасу Чырвоны Маяк з агульнага ліку членаў калгасаў у 31—17 чалавек адзіночак.

У некаторых калгасах не абагулены сродкі вытворчасьці, ня ўнесены ў дастатковай меры ўступныя і паявыя ўзносы (калгас Прагрэс).

Партасьвета і палітпрасьветпраца ў калгасах і саўгасах раёну пастаўлена нездавальняюча.

Усе партячэйкі недастаткова праводзяць працу па ўцягненьні ў партыю калгасьнікаў, батракоў і сел.-гас. рабочых.

### Аб працы ячэек сярод беднаты і батрацтва.

Праца партарганізацыі сярод беднаты і батрацтва не набыла характару сыстэматычнасьці, а носіць у большасьці кампанійскі характар.

Ня гледзячы на недахопы ў справе наладжваньня сыстэматычнасьці і паўсядзённасьці работы з батрацтвам і беднатой, партарганізацыя ў асноўным спраўляецца з агульнымі задачамі, пастаўленымі партыяй у справе рэканструкцыі с-гаспадаркі на новы

сацыялістычны лад, у справе арганізацыі батрацтва і беднаты, з серадняком для рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты вёскі.

У сувязі з хлебазагатоўчай кампаніяй бедната, батрацтва і серадпякі актыўна выступаюць супроць кулацтва, якое перашкаджае і падрывае працу па правядзеньню мерапрыемстваў па хлебазагатоўках.

Клясавая барацьба прымае адкрытыя формы. У вёсцы Вобчае, Сялецкага с-савету, бедната і серадпякі на агульным сходзе давалі асобныя заданьні кулакам па выкананьню хлебазагатоўчага пляну.

У вёсцы Веркалы, Задашчанскага с-савету, пры прад'яўленьні агульнаму сходу сялян праэкту цьвёрдых заданьняў кулакам камісіяй садзейнічаньня хлебазагатоўкам па здачы хлеба, група кулакоў на чале з кулаком Шпакам, пазбаўленым выбарчых правоў, былым жандарам Мухай і др. пачала насядаць на камісію з мэтай зрыву сходу і нават тэрору, у асаблівасьці ў адносінах старшыні камісіі садзейнічаньня хлебазагатоўкам вёскі Веркалы батрачкі Тарасевіч Вікці, якую кулакі намерваліся пабіць.

Бедната і серадпякі, абураныя вылазкай кулацтва і заможнікаў, фізычна пачалі абараняць камісію. Сход разьбіўся на два лягеры, з аднаго боку заможнікі і кулакі, і з другога боку—бедната і серадпякі, справа амаль не дайшла да рукапашнай. Агульны сход зацьвердзіў праэкт камісіі па абкладаньні заможнікаў і кулакоў цалкам.

Там, дзе праводзіцца праца сярод беднаты і батрацтва, апошнія лепш арганізована даюць адпор кулацтву.

## Праца сельпарторгаў.

Сельпартарганізатары маюцца толькі пры адной ячэйцы КП(б)Б, праца якіх разгорнута нездавальняюча з прычыны перагружанасьці працай, як раённых працаўнікоў (Грэская ячэйка КП(б)Б). У астатніх ячэйках функцыі сельпарторгаў выконваюцца пэрыядычным прымацаваньнем партыйцаў да паасобных вёсак.

**Біруля.**

---

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня БДВ Заказ № 635. У ліку 2200 экз. Галоўлітбел № 492.